

"Каб усе былі адно" (Ян 17, 21)

# Царква

№ 1 (20), 1999 ДАБРАВЕШЧАННЕ

*Сёння пачатак сусветнай радасці заахвочвае нас запяяць перадсвяточную песню; Габрыэль прыходзіць да Дзевы з добрай весткаю, усклікаючы: "Радуйся, Поўная ласкі, Госпад з Табою!"*

*Трапар (тон 4)*



*ДАБРАВЕШЧАННЕ. Зёлаўскі майстар. Другая палова XVIII ст. Абраз выяўлены ў Свята-Троіцкай царкве в.Зёлава Дарагічыньскага р-ну Берасцейскай вобл.*

## Малітва аб пакліканнях

*Госпадзе, зрабі нас лепшымі, чым мы ёсць цяпер, больш чулымі на патрэбы іншых, больш шчырымі з сабою і больш вернымі Табе.*

*Памажы нам убачыць нашае сапраўднае пакліканне ў жыцці, каб, дзякуючы яму, мы маглі знайсці шчасце для сябе і прынесці шчасце іншым.*

*Дай, Госпадзе, духа ахвярнасці тым, каго Ты паклікаў да святарства, каб яны з гатоўнасцю адгукаліся на Твой заклік.*

*Асабліва просім Цябе: глянь ласкава на наш беларускі народ і пакліч спасярод яго Сабе верных слугаў, якія б вялі нас да пазнання Цябе, адзінага праўдзівага Бога, каб мы маглі славіць на нашай роднай мове Тваё велічнае і ўсяслаўнае імя, Айца, і Сына, і Святога Духа, і атрымаць вечнае жыццё. Амін.*

# 25 САКАВІКА

## Дзень малітваў за Бацькаўшчыну

Мы, нягодныя слугі Твае, Збавіцелю, Уладару і Госпадзе, прыходзім да Тваёй спагадлівасці і дзякуем са страхам і трымценнем за ўсе дабрадзействы, якімі Ты шчодра абдарыў нашу краіну Беларусь; і, прыпаўшы да Цябе, пакорна просім захаваць яе свабоднай і ў супакоі. Пакажы Тваю заўсёдную міласэрнасць нашаму беларускаму народу, спаўняючы ўсе ягоныя добрыя жаданні і намеры; і дай яму дух справядлівасці, згоды, братняй любові і шчырай набожнасці. Горача молімся Табе, пачуй нас і змілуйся.

*(З Малебну за беларускі народ)*



# Новасвятар для беларускіх грэка-каталікаў

Галоўны момант падчас Тайны Хіратоніі: біскуп Ян Мартыняк ускладае рукі на галаву кандыдата і перадае яму ласку святарства

Доўгачаканая і радасная падзея адбылася ў жыцці Беларускай Грэка-Каталіцкай Царквы. Па заканчэнні грунтоўных 7-гадовых студыяў на тэалагічным факультэце ў Аламоўцы (Чэхія) і Любліне (Польшча) 16 снежня 1998 году дыякан Беларускай Грэка-Каталіцкай Царквы Андрэй Абламейка быў высвячаны на святара мітрапалітам Перамышльскім Уладыкам Янам (Мартынякам). У гэты ж дзень мітрапаліт УГКЦ Ян Мартыняк пасвяціў у чытальнікі маладога беларускага клерыка Кірылу Невяроўскага.



Першую ўрачыстую Боскую Літургію (прыміцыю) новасвятар айцец Андрэй Абламейка служыў у нядзелю, 20 снежня, у Менску — у касцёле святых Сымона і Алены. Прынагоднае казанне пра гэтую выключна важную для нашай Царквы падзею гаварыў Апостальскі візітатар архімандрыт Сяргей Гаек.

У прыміцыйнай Літургіі новасвятара айца Андрэя Абламейкі бралі ўдзел прадстаўнікі нашага грэка-каталіцкага духавенства: айцец Казімір Ляховіч (парах менскай парафіі іконы Маці Божай Нястомнай Дапамогі) і айцец Пахом Кавалёў з Полацку разам з сёстрамі студыткамі. Акрамя іх у набажэнстве ўдзельнічалі ксёндз Уладзіслаў Завальнюк, пробашч рыма-каталіцкай парафіі святых Сымона і Алена і сакратар Апостальскай Нунцыятуры ў Менску мансіньёр Джульё Мурат. Шматлікімі былі таксама прадстаўнікі грэка-каталіцкіх парафіяў з усёй Беларусі.



Біскуп апранае новасвятара ў стыхар

Першая Боская Літургія айца Андрэя была асаблівай радасцю для вернікаў менскай парафіі св. Язэпа, якія такім чынам атрымалі свайго душпастыра.

Айцу Андрэю складаем найлепшыя зычэнні Божага блаславення ў ягоным святарскім служэнні:

***AXIOS, AXIOS, AXIOS!***



Дыякан Андрэй складае вызнанне веры і дае прысягу



Біскуп накладае новасвятару Андрэю епітрахіль



Уладыка апярэзвае новасвятара поясам



Уладыка Ян урачыста ўручае новасвятару Андрэю Абламейку служэбнік



# Пастырскае Слова

## Апостальскага візітатара «ad nutum Sanctae Sedis» для грэка-католікаў Беларусі на свята Дабравешчання 25 сакавіка 1999 году



*Дарагія ў Госпадзе Браты і Сёстры!*

**1** У святочны дзень Дабравешчання Святая Царква адзначае вялікую таямніцу Уцелаўлення Сына Божага — Ісуса Хрыста.

На працягу стагоддзяў нашыя продкі знаходзілі радасць у праўдзе пра тое, што Спрадвечны Сын Божы стаўся чалавекам. Праўда аб Уцелаўленні Ісуса Хрыста і сёння з'яўляецца для нас крыніцай радасці ды надзеі. Праўда гэтая асабліва актуальная ў часе, калі ўсе хрысціяне рыхтуюцца да Юбілею 2000-га Году.

Як вядома, праз 9 месяцаў — у Ноч Божага Нараджэння 1999 году — Святы Айцец адчыніць Святыя Дзверы ў ватыканскай Базіліцы святога Пятра і распачне Вялікі Юбілей 2000-га Году.

Сёняшнім святам Дабравешчання пачынаем у нашай Беларускай Грэка-Каталіцкай Царкве 9-месячную, непасрэдную падрыхтоўку да Вялікага Юбілею.

У рамках падрыхтоўкі да гэтага Юбілею Святы Айцец Ян Павел II выдаў спецыяльны Апостальскі Ліст *Tertio millennio adveniente («Набліжэнне Трэцяга Тысячагоддзя»)*, у якім нагадвае нам усім пра заўсёдную актуальнасць таямніцы аб'яўлення Бога ў Сваім Сыне Ісусе Хрысце. Святы Айцец піша між іншым: «У Ісусе Хрысце Бог не толькі гаворыць з чалавекам, Бог шукае чалавека. Уцелаўленне Божага Сына сведчыць аб тым, што Бог шукае чалавека.

[...] Калі Бог выходзіць на пошукі чалавека, створанага па Ягоным вобразе і на Яго падабенства, то робіць гэта таму, што Ён спрадвеку любіць яго ў Слове і прагне яго ўзвысіць у Хрысце аж да годнасці ўсыноўленага дзіцяці» *(Tertio millennio adveniente, 7)*.

**2** Уцелаўленне Ісуса Хрыста, Божага Сына,— гэта крыніца годнасці кожнага чалавека, а таксама выток годнасці кожнага народу.

Калі сёння, 25 сакавіка — у свята Дабравешчання, паводле традыцыі мы ўзгадваем Беларусь, молімся найперш за яе духоўнае адраджэнне на падмурку Евангелля Ісуса Хрыста.

Новую Беларусь могуць будаваць толькі новыя людзі, адноўленыя Евангеллем Ісуса Хрыста. Евангелля не трэба баяцца, яно нясе сапраўдную свабоду і з'яўляецца крыніцай творчага натхнення. Той, хто гэтага не разумее, застаецца рабом старога менталітэту і ніколі не пакаштуе сапраўднае свабоды. Гэта і ёсць пасланне Евангелля, якое хрысціянскія Цэрквы ў Беларусі павінны з асаблівай руплівасцю абвяшчаць на парозе Трэцяга Тысячагоддзя.

Несумненна, хрысціянскія Цэрквы ў Беларусі стаяць перад задачай вяшчаць грамадству Краіны Евангелле ў роднай мове. На гэтым полі мае свае заслугі Беларускае Біблійнае Таварыства (у ім актыўна дзейнічаў святой памяці айцец Ян Матусевіч). Мы дзякуем Госпаду Ісусу Хрысту за руплівыя намаганні ўсіх супрацоўнікаў Таварыства і молімся, каб Госпад і надалей благаславіў іхнюю шляхотную працу.

Сёння мы таксама ўзгадваем усіх вучняў ды настаўнікаў беларускіх школаў. У руплівай малітве просім для іх Божае благаславенне.

Браты і Сёстры! Усіх вас, вернікаў і сяброў Беларускай Грэка-Каталіцкай Царквы, заклікаю ды запрашаю: у рамках 9-месячнай падрыхтоўкі да Вялікага Юбілею старайцеся кожны дзень чытаць урывак са Святога Пісання, асабліва Новага Запавету. Моладзь і дарослых запрашаем да малітоўна-біблійных гурткоў у нашых парафіях, у якіх супольнае чытанне Слова Божага, пад кіраўніцтвам святароў або катэхетаў, павінна спрыяць пазнанню Евангелля, паглыбленню веры ды ўмацаванню любові да Царквы. Няхай асабістае чытанне Бібліі — Слова Божага — на роднай мове паглыбіць нашу любоў да Бацькаўшчыны.

Прыступаючы да чытання Слова Божага, молімся словамі малітвы Святога Айца Яна Паўла II:

*[...] Ойча справядлівы, няхай Вялікі Юбілей*
*стане часам спрыяльным, каб усе католікі*
*нанова адкрылі радасць у слуханні*
*і перажыванні Твайго Слова*
*і цалкам аддаліся волі Тваёй;*
*каб, ламаючы разам хлеб і праслаўляючы Цябе*
*гімнамі і песнямі, поўнымі Духа,*
*пазналі вартасць братэрскае еднасці.*

**3** Беларуская культура вырасла на грунце Евангелля. Адкрыццё і развіццё гэтай культуры з'яўляецца найлепшым сведчаннем плённага прыняцця Евангелля.

Нябеснымі апекунамі ўсіх намаганняў на гэтым шляху заўсёды былі і будуць святыя Салунскія Браты — Кірыла і Мятод, Апосталы і Настаўнікі Славянаў. Вернасць іхняй місійнай справе заклікае нас сёння да дыялогу ў духу Евангелля. Гэта мае асаблівае значэнне для Беларусі, дзе на працягу стагоддзяў згодна жывуць побач традыцыі абедзвюх хрысціянскіх традыцыяў — усходняй і заходняй.

Цудоўны прыклад экуменічнай адкрытасці можна знайсці ўжо ў пачатках беларускага пісьменства, у постаці і творах св. Кірылы Тураўскага (XIII ст.). У ягоных творах няма следу антылацінскай палемікі і канфесійнай прадузятасці. Затое прысутнічаюць шматлікія заклікі да малітвы «за ўсіх хрысціянаў». Гэты прыклад павінен стаць стымулам хрысціянам у Беларусі сёння, напярэдадні Трэцяга Тысячагоддзя.

У перспектыве Трэцяга Тысячагоддзя дыялог паміж хрысціянамі, дыялог паміж верай і культурай, які вядзецца ў духу Евангелля, з'яўляецца неабходнай умовай паспяховай евангелізацыі грамадства.

Беларусі сёння патрэбныя людзі мужныя, якія не баяцца цяжкасцяў жыцця Евангеллем. Да асаблівай евангелізацыйнай мужнасці заклікаецца творчая інтэлігенцыя і маладое пакаленне — пра гэта казаў Папа Ян Павел II каталіцкім біскупам Беларусі 7 красавіка 1997 году падчас іхнага візіту «ad limina Apostolorum»:

«Іншым аспектам душпастырскае працы, які жадаю падкрэсліць, ёсць апостальства сярод інтэлігенцыі, менавіта сярод тых, якія працуюць у розных галінах культуры. Гэта важны абавязак, пра які нам нельга забывацца таксама тады, калі, як я добра ведаю, вы аддаяце перавагу апецы над моладдзю і сям'ёю. І сапраўды, здаецца, усё мае перавагу, калі ўлічваць, з аднаго боку, заняпад грамадства ў галіне этыкі, а, з іншага боку, «савецкі» менталітэт, уласцівы большасці звычайных людзей. Трэба праграмаваць працу новай, адважнай і адпаведнай евангелізацыі ў зменenай гістарычнай і сацыяльнай сітуацыі. Ахвяруйцеся на гэтую евангельскую дзейнасць без перапынку, асабліва беручы пад увагу вялікую гістарычную сустрэчу Юбілею 2000-га Году».

**4** На шляху да 2000-га Году спадарожнічае Царкве Найсвятая Багародзіца. Яна пладавіта прыняла ў сваім сэрцы і ў сваім улонні Спрадвечнае Слова Божае — Ісуса Хрыста. У літургічнай традыцыі Усходняе Царквы радасная Таямніца Уцелаўлення знайшла цудоўны выраз у старажытным гімне «Акафісце». Няхай Акафіст Найсвяцейшай Багародзіцы — значыць разважанні Тайны Уцелаўлення, станецца нашай прывілеяванай малітвай у рамках 9-месячнай падрыхтоўкі да Вялікага Юбілею.

Такім чынам нашае асабістае і грамадскае жыццё будзе прасветленым Святлом Уцелаўлёнага Слова.

Спрадвечнае Святло Божага Аблічча заззяла для ўсіх нас у тайнах св. Хросту і Хрызмавання (Мірапамазання), праз якія мы сталіся ў Хрысце сынамі і дачкамі Бога — нашага Айца. У гэтым наша вялікая годнасць. У гэтым таксама і нашае вялікае заданне: быць сведкамі Ісуса Хрыста ў нашым штодзённым жыцці, сведчыць іншым людзям, што Бог іх любіць і шукае, што запрашае іх у сваю сям'ю — адзіную, святую, паўсюдную і апостальскую Царкву.

Браты і Сёстры!

Няхай сёняшняе свята Дабравешчання і ўвесь святы час Вялікага посту будзе для ўсіх нас часам духоўнае адновы і ўзаемнае малітвы за сябе.

Няхай Ісус Хрыстос, Адзінароднае Слова Бога, які дзеля нашага збаўлення захацеў прыняць цела ад Святое Багародзіцы і заўсёды Дзевы Марыі, быў укрыжаваны за нашыя грахі і смерцю сваёй знішчыў смерць, даруе ўсім нам Сваё благаславенства.

*Рым-Менск, 25 сакавіка 1999 году*

+ архім. Сяргей Гаек **архімандрыт Сяргей ГАЕК**

# Ці стане Сусветная Рада Цэркваў Форумам хрысціянскіх Цэркваў і экуменічных арганізацыяў?

14 снежня мінулага году ў сталіцы Зімбабве Харарэ завяршыла працу VIII Асамблея Сусветнай Рады Цэркваў (СРЦ), якая была прымеркавана да 50-годдзя гэтай міжнароднай экуменічнай арганізацыі. У апошні час гэтая арганізацыя перажывае сур'ёзны крызіс з-за супярэчнасцяў паміж Пратэстанцкімі і Праваслаўнымі Цэрквамі ў падыходах да шэрагу праблемаў (крайні лібералізм пратэстантаў у справе фемінізму і аднаполых шлюбаў, місіянерская дзейнасць на традыцыйна «праваслаўных» тэрыторыях і інш.), а таксама з-за адсутнасці прагрэсу ў тэалагічным дыялогу паміж бакамі.

Захады, зробленыя кіраўніцтвам СРЦ, каб папярэдзіць выхад усіх Праваслаўных Цэркваў з Рады, далі ўсё ж пэўны вынік, але ніхто з найвышэйшых ерархаў Праваслаўных Цэркваў не прысутнічаў на асамблеі ў Харарэ, акрамя патрыярха Александрыйскага Пятра VII і архіепіскапа Тыранскага і ўсёй Албаніі Анастасія. Канстанцінопальскі Патрыярхат прадстаўляў мітрапаліт Эфескі Хрызастом, а Патрыярх Варфаламей I звярнуўся да асамблеі з прывітаннем.

Асамблея СРЦ прыняла рашэнне стварыць спецыяльную камісію для развязання канфлікту вакол далейшага ўдзелу Праваслаўных Цэркваў у працы гэтай міжнароднай экуменічнай арганізацыі. Аднак літаральна праз некалькі гадзінаў пасля таго, як асамблея прагаласавала за гэта, дэлегацыя РПЦ заявіла, што яна прыпыняе сваё сяброўства ў Радзе да канчатковага рашэння «спецыяльнае камісіі па ўдзелу праваслаўных у СРЦ». Спецыяльная камісія будзе складацца пароўну з прадстаўнікоў Праваслаўных Цэркваў і з сябраў ЦК СРЦ. Яна падрыхтуе прапановы адносна «неабходных зменаў у структуры, стылі і этнічным складзе Рады».

На асамблеі была падтрымана ідэя стварэння «Форуму хрысціянскіх Цэркваў і экуменічных арганізацыяў», у працы якога змогуць удзельнічаць не толькі 339 афіцыйных сябраў Сусветнай Рады Цэркваў. Калі такі форум будзе ўтвораны, ён зможа аб'яднаць за адным экуменічным сталом прадстаўнікоў практычна ўсіх асноўных хрысціянскіх канфесіяў свету — у тым ліку Каталіцкую Царкву і шматлікія пяцідзясятніцкія і евангелічныя супольнасці, якія не з'яўляюцца сябрамі СРЦ. Удзельнікамі форуму змогуць стаць таксама розныя рэгіянальныя і міжнародныя экуменічныя арганізацыі.

На думку аглядальнікаў, рашэнне пра міжхрысціянскі форум стала адчувальнай перамогай генеральнага сакратара СРЦ Конрада Райзера, які на працягу 2 апошніх гадоў актыўна намагаўся правесці гэтую ідэю. У дадзены перыяд СРЦ разглядае мадэль кансэнсусу пры прыняцці рашэнняў. Да таго ж на змену «сяброўству» ў арганізацыі будзе прапанаваны «ўдзел» у яе працы. Назіральнік ад Каталіцкай Царквы на Асамблеі амерыканскі святар Томас Странскі заўважыў, што, калі гэтая арганізацыя зазнае пэўных зменаў, Каталіцкая Царква, магчыма, увойдзе ў СРЦ. Пераўтварэнне Рады ў форум, за якое выступаў Конрад Райзер, адкрыла б магчымасць такой змены — надаючы магчымасць маліцца, даследаваць праблемы, важныя для ўсіх хрысціянаў, а таксама развіваць узаемапаразуменне паміж сябрамі СРЦ і іншымі Цэрквамі.

# У гонар мучанікаў-уніятаў з Падляшша

24 студзеня 1999 году споўнілася 125 гадоў з часу пратулінскай трагедыі. Тады расейскія царскія войскі расстралялі бяззбройных парафіянаў уніяцкай царквы ў в.Пратулін Холмскай епархіі. Больш за 100 сялянаў былі параненыя, 13 — загінулі; за некалькі дзён практычна ўсіх жыхароў Пратуліна арыштавалі і вывезлі з Падляшша. Пратулінскія падзеі з'яўляюцца адной з найтрагічнейшых старонак у гісторыі знішчэння расейскім самадзяржаўем Уніі. Як адзначае а. Ёсыф Мілян, кіраўнік патрыяршай камісіі УГКЦ па справах моладзі, «сярод мучанікаў з Пратуліна былі вельмі маладыя людзі (наймалодшаму споўнілася 17 гадоў), якія яскрава засведчылі сваю вернасць Богу і Царкве».

У дзень памяці ўніяцкіх мучанікаў з Падляшша, якіх у кастрычніку 1996 году Святы Айцец Ян Павел II абвясціў благаславёнымі, беларускія і ўкраінскія грэка-католікі ўшанавалі іх адмысловымі набажэнствамі.

На Украіне ў Львоўскім храме Найсвятой Еўхарыстыі быў адпраўлены малебен да Пратулінскіх мучанікаў. Кіраўніцтва храму, які з'ўляецца асяродкам душпастырскай працы з моладдзю, спадзяецца з часам ушанаваць пратулінскіх мучанікаў, прысвяціўшы ім адзін з алтароў.

У Беларусі намаганнямі супрацоўнікаў газеты «Царква» да дня памяці пратулінскіх уніятаў быў адмыслова падрыхтаваны пераклад на беларускую мову Акафіста ў гонар Мучанікаў Падляшскіх. Ён быў складзены архімандрытам Раманам Пенткам, парахам уніяцкай парафіі ў Кастамлотах (Польшча). З 24 студзеня ён служыцца ў берасцейскай парафіі.

Рыма-Каталіцкая Царква дапамагла грэка-католікам беатыфікаваць святога мучаніка Язафата Кунцэвіча, і гэта яе заслуга, што падляшскія мучанікі-ўніяты былі абвешчаны як благаславёныя, тым самым яны сталіся вядомыя ва ўсёй Усяленскай Царкве, а не толькі ў нашай. Нам жа неабходна працаваць над тым, каб іхнія імёны былі належна ўслаўленыя сённяшнімі вернікамі нашае Царквы і асабліва — моладдзю.

# Багаслоўскі калоквіум «Deus Pater»: Айцоўства — гэта заўсёды адказнасць

13-14 лютага ў Люблінскім марыянскім Доме студыяў св. Кірылы і Мятода праходзіў багаслоўскі калоквіум *«Deus Pater» («Бог Айцец»)*. У ім прынялі ўдзел Генеральны ігумен айцоў марыянаў а. Адам Банецкі, Апостальскі візітатар для грэка-католікаў у Беларусі архімандрыт Сяргей Гаек, святары, клерыкі і свецкія асобы з Польшчы, Украіны, Беларусі, Славакіі, Латвіі, Літвы і Казахстана. Гэты калоквіум стаў адным з этапаў падрыхтоўкі да Юбілею 2000-годдзя хрысціянства. Праводзіў калоквіум прафесар Папскага Усходняга Інстытуту ў Рыме айцец езуіт Джэрмана Марані.

Падчас сесіі айцец прафесар прачытаў удзельнікам калоквіуму тры лекцыі: «Pater noster. Бог Айцец і гісторыя збаўлення», «Бог як Айцец у першых вяках Царквы», «Айцоўства Бога. Тэалагічнае, духоўнае і пастаральнае значэнне». Бог Айцец з'яўляецца пачаткам ўсякіх здаровых узаемаадносінаў. Ён не пакідае чалавека. Ён верыць свайму стварэнню да канца. Бог Айцец адкрывае Сябе праз Слова — Сына. У наш час, калі адраджаецца рэлігійнае жыццё ў былых камуністычных краінах, абвяшчэнне Бога як Айца мае вялікае значэнне. Маладыя хрысціянскія супольнасці мусяць сведчыць сваім жыццём пра Айцоўства Бога.

Пасля змястоўных і цікавых дыскусіяў была зроблена выснова, што адной з прычынаў духоўнага крызісу сучаснага чалавечага грамадства ёсць брак айцоўства як у фізічным, так і ў духоўным сэнсе. Сёння чалавек не заўжды імкнецца браць на сябе адказнасць. Айцоўства — гэта заўсёды адказнасць. Так, напрыклад, духоўны айцец — святар — адказвае за сваю парафію, бацька сям'і адказвае за дабрабыт сям'і і разам з сужонкай — за выхаванне сваіх дзяцей. Каб пераадолець нездаровыя тэндэнцыі, трэба выхоўваць уласнае пачуццё Бога. Наш спосаб жыцця павінен быць паводле Евангелля. Такім чынам мы ажыццяўляем пераход да свабоды, выхоўваем сябе ў духоўным рэалізме.

Варта адзначыць, што ўсе праблемы, якія ўздымаліся падчас калоквіуму, былі абмеркаваныя ў кантэксце традыцыяў не толькі Захаду, але і Усходу.

Завяршыўся калоквіум 14 лютага ўрачыстай Літургіяй, якую ўзначаліў вікарны біскуп Люблінскі Мечыслаў Цісла. На гэты дзень у лацінскай традыцыі прыпадае свята св.Кірылы і Мятода, апекуноў Еўропы, асветнікаў славянскіх народаў, якія з'яўляюцца патронамі марыянскага Дома студыяў у Любліне. Падчас Літургіі ўсе ўдзельнікі маліліся да святых братоў з просьбай аб дапамозе ў місіі працягу іхняй справы — абвяшчэнні Добрай Весткі. Дарэчы, малітвы гучалі не толькі па-польску, але і на беларускай, украінскай, славацкай, латышскай, армянскай мовах.

**Яўген Петухоў**

# Рымскі Архірэй абвясціў Юбілей-2000 Святым Годам

Першаерарх Каталіцкай Царквы Ян Павел II афіцыйна абвясціў «Святым» год Вялікага Юбілею 2000-годдзя хрысціянскай эры, які афіцыйна будзе трываць з 24 снежня 1999 году да 6 студзеня 2001 году.

Папская була — такую назву мае дакумент — традыцыйна ўстанаўлівае дату і працэдуру для святкавання Святога Году. Яшчэ раней Ватыкан апублікаваў дакумент, дзе тлумачыцца духоўнае значэнне Вялікага Юбілею і абвяшчаецца каляндар падзеяў на 2000 год.

Святы Год будзе трываць даўжэй за каляндарны, галоўным чынам праз чаканне збору паломнікаў у Ерусаліме і Рыме. Звычайна Святы Год, які Каталіцкая Царква адзначае кожныя 25 гадоў, цягнецца ад Раства да Раства. Але многія лічаць, што гэтым разам урачыстасці, звязаныя з сустрэчай новага тысячагоддзя, павінны стаць выключэннем і трываць найменей да Вялікадня 2001 году.

Юбілейны 2000 год распачнецца старажытнай цырымоніяй, у ходзе якой Папа пастукае срэбным малатком у бронзавую браму Ватыканскай базілікі (Сабора св. Пятра). Рытуал, што быў устаноўлены ў 1500 годзе, будзе паўтораны 24 снежня 1999 году. Рымскі Пантыфік стане першым, хто пройдзе ў гэты дзень праз Святую Браму. Бронзавая брама, якая месціцца праваруч ад галоўнага ўваходу ў базіліку, звычайна зачынена і закладзена цэглаю. Яна сімвалізуе мяжу, што ўзнікла паміж Богам і чалавекам пасля грэхападзення Адама і Евы. Падыйшоўшы да Святой Брамы на чале ўрачыстае працэсіі, Папа пастукае ў яе і скажа: «Адчыніце мне браму справядлівасці», пасля чаго ўвойдзе ў сярэдзіну сабору.

Чакаецца, што на працягу Юбілейнага Году праз Святую Браму пройдзе шмат тысячаў паломнікаў, а апошнім з іх зноў стане Папа. Пасля гэтага дзверы зноў будуць зачыненыя і закладзеныя цэглаю да наступнага юбілейнага году. Святая Брама, паводле словаў Яна Паўла II, сімвалізуе пераход хрысціянаў ад стану граху да стану Божае ласкі. Гэта сімвал выбару і адказнасці, сімвал, што ўжо ўвасоблены Ісусам Хрыстом, які гаварыў пра сябе: «Я — Дзверы», дзверы, што вядуць у дом Айца.

# Пасланне Святога Айца з нагоды Сусветнага Дня Моладзі

У сваім традыцыйным пасланні з нагоды XIV Сусветнага Дня Моладзі, які адзначаецца на Вербніцу (28 сакавіка), Святы Айцец Ян Павел II асабліва падкрэслівае, што Бог любіць свет, і, нягледзячы на непрыняцце Яго, і надалей будзе любіць яго. «У наш час Царква і свет патрабуюць больш, чым калі-небудзь, місіянераў, якія былі б здольныя абвяшчаць словам і прыкладам гэтую галоўную і суцяшальную праўду»,— піша Папа, заклікаючы маладых людзей, якія стануць дарослымі ў будучым тысячагоддзі, вучыцца ў школе Ісуса.

Ян Павел II заахвоціў моладзь да пашаны і ўдзячнасці да тых людзей, бацькоўства якіх нясе на сабе адбітак Айцоўства Бога. Найперш, гэта нашыя бацькі, настаўнікі, а таксама святары і манахі, якія праз сяброўства з моладдзю і сваё сведчанне становяцца для іх настаўнікамі. Святы Айцец звяртае ўвагу на няспынную гатоўнасць Бога прабачаць чалавека: «Ад хвіліны, калі ён аддаляецца ад свайго дому, ягоны Айцец жыве ў чаканні, не губляе надзеі, выглядае яго на гарызонце. Ён шануе свабоду сына і аднačасова пакутуе, а калі сын адважваецца на вяртанне, убачыўшы яго здалёк, выбягае яму насустрач». Але пры гэтым Папа нагадвае пра важнасць Тайны Пакаяння. «Каб атрымаць Божае прабачэнне, недастаткова толькі ўнутранага жалю за грахі. Паяднанне з Богам адбываецца праз паяднанне з усёй царкоўнай супольнасцю». Падкрэсліваючы незаменную ролю споведзі, Святы Айцец заахвочвае ўсіх маладых людзей як найчасцей прыступаць да яе. Напрыканцы свайго паслання Папа спасылаецца на Хрыстовыя прыказанні любові да Бога і бліжняга, кажучы пра дапамогу найбяднейшым. Пануючыя «структуры граху» могуць быць пераможаныя толькі дзякуючы салідарнасці ўсіх людзей.

# Хрыстос – крыніца новай культуры

Сімпозіум еўрапейскай інтэлігенцыі «Хрыстос: крыніца новай культуры для Еўропы на парозе новага тысячагоддзя» адбыўся ў Ватыкане. У ходзе гэтага навуковага форуму прадстаўнікі інтэлектуальнай эліты абмеркавалі праблемы культуры, якія стаяць перад сённяшняй Еўропай.

На адкрыцці форуму выступіў прэзідэнт Папскай Рады па пытаннях культуры кардынал Поль Пупар. Кардынал падкрэсліў, што «задача сімпозіуму — не толькі выказаць занепакоенне, але і засведчыць надзею на будучыню. Узніклі новыя сферы напружанасці, новыя канфлікты раздзяляюць людзей, новыя сцены ўзняліся паміж нацыямі, новае непаразуменне выявілася паміж рэлігіямі, новыя бар'еры былі створаны паміж культурамі».

Кардынал Пупар нагадаў удзельнікам сімпозіуму словы Яна Паўла II пра тое, што «еўрапейскую ідэнтычнасць немагчыма зразумець без хрысціянства», і заклікаў інтэлектуалаў Еўропы «адкрыць далягляды новае культуры на грунце хрысціянскіх каштоўнасцяў».

# Форум маладых дабравеснікаў

28-31 студзеня 1999 году ў кляштары айцоў францішканаў у польскім горадзе Непакаляную адбыўся еўрапейскі форум маладых лідараў хрысціянскіх евангелізацыйных рухаў, арганізаваны каардынацыйным евангелізацыйным цэнтрам *Europe Arise* пры ўдзеле Фонда святых Кірылы і Мятода ў Варшаве.

Цэнтр *Europe Arise* быў створаны ў 1995 годзе з мэтаю каардынацыі дзейнняў еўрапейскіх евангелізацыйных рухаў, абмену вопытам паміж гэтымі рухамі і аб'яднання намаганняў у справе дабравешчання. У 1997 годзе *Europe Arise* быў арганізаваны форум моладзі ў нямецкім горадзе Майнінгем. Нямецкая сустрэча была падрыхтоўкай да святкавання Сусветнага дня моладзі ў Парыжы. У гэтых мерапрыемствах бралі ўдзел таксама і беларускія грэка-католікі. Форум у Непакалянуве стаўся чарговай сустрэчай такога роду. У Польшчу з'ехаліся 120 дэлегатаў з 14 еўрапейскіх краінаў. Нашу краіну прадстаўлялі Апостальскі візітатар для католікаў усходняга абраду архімандрыт Сяргей Гаек і а. Ігар Кандрацьеў, душпастыр для грэка-католікаў Берасцейскай вобласці, галоўны рэдактар газеты «Царква». Сярод гасцей былі католікі лацінскага і візантыйскага абрадаў, а таксама праваслаўныя з Украіны, Беларусі і Расеі.

Чатырохдзённая праграма форуму ў Непакаляnuве была надзвычай насычаная і разнастайная: малітвы ўслаўлення чаргаваліся з акадэмічнымі лекцыямі, а выступы — з працай у дыскусійных групах. Выканаўчы дырэктар *Europe Arise* Наэль Чыркоп нагадаў прысутным словы Папы Яна Паўла II, які шматразова падкрэсліваў, што мы жывём «у спрыяльныя часы», і выказаў спадзяванне, што і для ўдзельнікаў форуму гэтыя дні будуць «спрыяльным часам».

Малітвы былі арганізаваныя міжнароднымі евангелізатарскімі групамі. «Акадэмічныя» спатканні вялі праф. Массіма Інтравіньe (Італія), а. Пат Лінч (Ірландыя) і Мішэль Маран (Францыя). Прафесар Інтравіньe дзве свае бліскучыя лекцыі прысвяціў аналізу рэлігійнае сітуацыі ў сучаснай Еўропе і праблеме новых рэлігійных рухаў. Лекцыі а. Лінча і М.Маран базаваліся на матэрыяле новай энцыклікі Яна Паўла II «Вера і розум». Дыдактычныя блокі, падрыхтаваныя Эндру Кансільё («Матывацыя і дзеянне»), Каррада ды Джэнара («Пастырскі клопат пра моладзь») і Мішэль Маран («Як распрацаваць план і стратэгію»), былі прысвечаны эфектыўнасці працы лідараў.

Тэмай для абмеркавання ў дыскусійных групах былі пытанні эфектыўнасці працы дабравеснікаў. Удзельнікі адзначылі пэўную адрознасць у евангелізацыйнай працы ў Заходняй і Усходняй Еўропе. У прыватнасці, як адзначалі выступоўцы, на Усходзе выявіўся як неэфектыўны метад «стадыённых» евангелізацыйных акцыяў. Тут больш падыходзіць і аказвае большае ўздзеянне індывідуальная катэхізацыя, сталы ўдзел у літургічным жыцці Царквы. Тым не менш, нямала выявілася і агульных праблемаў.

Як адзначалі ўсе выступоўцы, спатканні, накшталт форуму ў Непакалянуве, ствараюць унікальную магчымасць для сустрэчы і абмену духоўным вопытам тых, каму — на Захадзе і на Усходзе — неабыякава справа Хрыстовага Евангелля, а таксама тое, якой Еўропа ўвойдзе ў наступнае тысячагоддзе.

**Аляксандр Даброер**

*Інфармацыя падрыхтавана паводле паведамленняў Агенцтва рэлігійнай інфармацыі (АРІ), Каталіцкага інфармацыйнага агенцтва (КАІ) і іншых прэсавых крыніцаў.*



*Мяне хвалюе тое, што жанчыны прыходзяць у царкву з непакрытай галавой, а некаторыя мужчыны носяць доўгія валасы. Асабліва мяне ўражвае, калі жанчыны, увайшоўшы ў храм, здымаюць хусткі, капялюшы і шапкі, а калі пры гэтым у штанах — мужчына, дый годзе. Калі прысутнічаюць на Літургіі такія парафіянкі, я адчуваю духоўны дыскамфорт, узнікае пачуццё, быццам я прыйшоў не ў Царкву Гасподнюю, а ў дом культуры на спеўную рэпетыцыю. І гэта мяне моцна хвалюе. Мне здаецца, гэта непавага да Госпада Бога нашага. Пачытайце, калі ласка, пасланні апостала Паўла да карынцянаў (1 Кар 11, 1-16), да Цімафея (1 Цім 2, 8-15). У гэтых пасланнях зразумела сказана, да чаго заахвочвае Госпад вернікаў, як паводзіць у царкве і як маліцца мужчыну і жанчыне. Размаўляў на гэтую тэму з многімі, але пераканаўчага адказу не пачуў. Жанчыны і слухаць не хочуць, а мужчыны абыякавыя. З агульнай размовы я зразумеў, што ўсё гэта залежыць ад моды. Але царква не дом моды, каб дэманстраваць свае прычоскі. Рашыў вось спытацца ў вас, бо не магу ўцяміць,як можа парафіянка з пасаромленай галавой прымаць удзел у Літургіі, ісці на споведзь, да прычасця, а святар адмовіць парафіянцы ў гэтым не можа. Мне здаецца, калі б такія парафіянкі былі ўпэўненыя, што ў царкве прысутнічае Святы Дух — Бог, яны б уваходзілі ў царкву з трымценнем і страхам, бо мы на гэтай зямлі грэшнікі і прыходзім супольна маліцца і прасіць у Бога прабачэння, выбаўлення нас ад грахоў. У гэтай сувязі асабліва мяне ўражвае другое пасланне апостала Паўла да салунянаў (2 Сал 2, 1-17). Прачытаўшы гэтае пасланне, я падумаў, што згаданыя жанчыны будуць першапрыемнікамі граху ад сына аблуды. Калі памыляюся, прашу прабачэння ў жанчын, бо не памыляецца толькі Бог. А я — просты смяротны чалавек. Але ўсёю душою хварэю за Царкву, каб яна адраджалася бялюсенькай, моцная Духам Святым — Божым. Да сапраўднага хрысціяніна мне яшчэ далёка, але я да гэтага імкнуся, маю моцнае жаданне быць з Богам, любіць Бога. І мне так хочацца, каб Бог не пакінуў мяне, маю сям'ю, бо з Божай ласкі я гляджу на сусвет іншымі вачыма.*

*Буду ўдзячны, калі атрымаю адказ. Няхай заўжды з усімі вамі будзе Бог.*

**Адам Сарокін**

*г.Менск*

**Ад рэдакцыі:**

Паважаны браце Адаме! Раю Вам занадта не хвалявацца і не звяртаць непатрэбнай увагі на знешні выгляд вернікаў у храмах. Калі надта пільна прыглядацца, заўжды можна знайсці ў людзях, якія вакол нас, нешта тое, што нам недаспадобы.

Што да прыведзенага Вамі ўрыўка з паслання апостала Паўла да карынцянаў — Вы занадта літаральна ўспрымаеце тое, што напісаў апостал Павел да вернікаў у Карынце. Нагода для напісання ліста карынцянам не была звязана са знешнім выглядам (адзеннем і прычоскамі) вернікаў у храме. Апостал Павел звяртаў увагу на больш сур'ёзныя і важныя праблемы гэтай канкрэтнай маладой хрысціянскай грамады, а менавіта на заняпад мясцовай Царквы і хрысціянскай маралі ў ёй. Карынт — сталіца правінцыі, якая абдымала ўсю Грэцыю, набыў сумную вядомасць з-за панаваўшай у ім распусты. У атмасферы паганскай сталіцы нованаверненыя хрысціяне мелі розныя цяжкасці. *Раздзел 11* з паслання апостала ў цэлым прысвечаны належнаму парадку здзяйснення Еўхарыстыі, а ва ўступнай частцы гэтага раздзела, на які менавіта Вы і спасылаецеся, апостал заклікае жанчынаў да больш сціплых паводзінаў у царкве і шлюбе. Жонка не павінна кіраваць мужам:"Мужу галава — Хрыстос, жонцы галава — муж, а Хрысту галава — Бог", "бо не мужчына ад жанчыны, а жанчына ад мужчыны". Гэта і ёсць галоўная думка ўрыўку.

Вучоныя біблеісты, каментуючы тэкст ўрыўка *1 Кар 1-16*, які найбольш Вас усхваляваў, сцвярджаюць, што "тут праяўляецца залежнасць Паўла ад нораваў таго часу, у сувязі з чым гэтыя высновы маюць адносны характар. Ён сам не лічыць іх бясспрэчнымі *(гл. верш 16)*". А вось што яны пішуць адносна звычаю, каб жанчыны пакрывалі галовы: "Паводле старажытнаўсходняга і антычнага звычаю патрабавалася, каб жанчыны ў грамадскіх месцах пакрывалі галаву. З непакрытаю галавой хадзілі толькі куртызанкі. Верагодна ў карынцкай грамадзе некаторыя жанчыны парушалі звычай і гэтым давалі нагоду да нараканняў. Ап. Павел заклікае захоўваць традыцыйны парадак, абгрунтоўваючы яго спасылкай на Пісанне (муж створаны раней за жонку, *Быц 2, 18-24*) і на прыродныя асаблівасці палоў *(верш 14)*. [...] Што да правіла малітвы мужчыны з непакрытай галавой, то апостал запазычвае яго з грэцкіх звычаяў, звыклых для большасці карынцянаў (юдэі маліліся з пакрытай галавой)". На Усходзе знешнім знакам замужняй жанчыны часцей за ўсё была пакрытая галава, а дзяўчаты ж, наадварот, не пакрывалі свае галовы на знак таго, што яны яшчэ свабодныя. Дарэчы, замужняя жанчына не павінна была паказваць і свайго твару. Наогул, мужчыны і жанчыны тады насілі не штаны і спадніцы, а хітоны, гімацыі, накідкі, тунікі і інш. Ці ж варта і нам прытрымлівацца сёння традыцыяў у вопратцы і знешнім выглядзе тых часоў?

**святар Ігар Кандрацьеў**

# За Беларусь нашу молімся

Да Царквы, пазней да Беларускай нацыянальнай Царквы, ішла я доўга і пакутліва. Шлях гэты, прызнаюся, не завершаны. Тыя гады, калі мяне, як і большасць юнакоў і дзяўчат, выхоўвалі ў атэізме камсамол, а пасля КПСС, не маглі не стварыць дысгармоніі ў маёй душы. Але ж тое, што мае бацькі мяне ахрысцілі і ў дзіцячыя гады мая слаўная бабуля Насця вадзіла мяне ў царкву, не магло не прабіцца тым парастачкам, які з цягам часу нешта мяняў унутры мяне. Ён трывожыў мяне...

І вось я ў царкве. Пасля некалькіх дзесяцігоддзяў я ў царкве. Слава Госпаду Богу, слава Ісусу Хрысту! Не раз была на споведзі, прычашчалася. Не толькі па вялікіх святах — Вялікадні, Растве Хрыстовым, Тройцы і г.д. — наведвала храм Божы. Мне хочацца ісці туды і маліцца — размаўляць з Госпадам Богам, давяраць Яму мае думкі, прасіць прабачэння за мае правіны, прасіць Ягонай міласці. Хвіліны яднання з Богам невыказныя. Немагчыма знайсці тыя адзіныя словы, якія б дакладна перадавалі стан душы. Скажу толькі: ён цудоўны, узвышаны. Становіцца лёгка, так лёгка і светла, і зямная мішура наша ўжо мала што значыць. Бо сапраўды: мы — часовыя вандроўнікі на гэтай, такой грэшнай зямлі.

Непаўторныя хвіліны перажыла я падчас свята нашай парафіі — Жыровіцкай іконы Божае Маці. Пасля святочнай службы мы, парафіяне, слухалі барда — творцу і выканаўцу складзеных ім самім духоўных і патрыятычных песень — Яўгена Савельева, артыста Віцебскага тэатру. Ён спяваў пра Бога і радзіму, пра мілую Беларусь нашу. Ліліся з душы юнака песні, і нашы душы ляцелі, ляцелі... І — раптам: «Паехалі ў Жыровічы!»

Жыровіцкая зямля. Святая зямля, дзе некалі тут, на грушцы, з'явіўся абраз Божае Маці. Мы маліліся ў царкве, былі ў захаваных уніяцкіх храмах. Маліўся і наш госць, Яўген. Як ён маліўся! Мы гаварылі з Богам цалюткі дзень. Якое ж гэта было свята!

А для мяне асабіста яно працягвалася і ўначы. Радкі, ліліся з душы маёй радкі...

*Маліся, юнак*
*На свята парафіі —*
*Жыровіцкай іконы*
*Божае Маці —*
*Скарыў маё сэрца*
*Вандроўнік-юнак.*
*Яго паланянкай*
*Стала я,*
*Старая жанчына,*
*З капой валасоў,*
*Аздобленых інеем.*
*Худзенькі юнак*
*З танклявымі пальцамі*
*Разам з гітарай*
*У неба ляцеў.*
*І клікалі струны*
*Нашыя душы*
*Да Бога нябачнага*
*Да Ісуса Хрыста:*
*— Збавіцелю, збаў нас,*
*Даруй нам, няслушным,*
*Дай руку, Настаўнік,*
*Ойча і строгі суддзя.*
*Дай руку, наш Лекар,*
*Чуеш: трапечуцца,*
*Святлеюць як душы*
*Ад дотыку рук,*
*Тваіх, Госпадзе, рук.*
*Дай моцы, дай сілы,*
*Уладару наш нябесны,*
*Любові Тваёй*
*Хоць кропельку дай.*
*Дай нам цярпення*
*З расіначку хоць бы,*
*Самы цярплівы*
*З усіх людзей — дай!..*
*А струны ўздыхалі,*
*І плакалі струны,*
*І рваліся сэрцы,*
*Грэшныя сэрцы*
*З грэшных цел.*
*Дзе ты, вандроўнік,*
*Што сэрцы трывожыш,*
*Што душы вярэдзіш,*
*Дзе ж ты, юнак?!*
*Мо ў Берасці,*
*Можа, у Бярозе?*
*Мо ў капліцы*
*З гітарай прысеў?..*
*І славу пяеш*
*Усявышняму славу.*
*І молішся Маці,*
*Жыровіцкай Маці,*
*Ва ўлонні якой*
*Сусвет цэлы*
*Змясціўся.*
*...Маліся, юнак.*

**Ніна Чыкіта**

*г.Івацэвічы*



Урывак з кнігі Альберта Аблондзі «Ніякіх павучанняў»

# «Калі б хтосьці паказаў для нас актуальнасць Біблії...»

*Піша Вам група шаснаццацігадовых. Мы збіраемся шточацвер у парафіі святога Якуба. Усе мы сябры, ці, прынамсі, добрыя знаёмыя, так што нам прыемна сустракацца раз на тыдзень, каб пагутарыць ды абмяняцца апошнімі навінамі. Усялякія калектыўныя справы нам падабаюцца, але кожны імкнецца захаваць свой інтарэс: удзельнічаць выключна ў справах, якія яму падабаюцца больш за ўсё, а тое, што яго не цікавіць — дык там толькі пасіўна прысутнічаць. І, па сутнасці, кожны ідзе на наш сход у чацвер, шукаючы чагосьці свайго.*

*І няма ніякай магчымасці сумясціць гэтае «чагосьці» са Словамі Ісуса Хрыста. Шчыра кажучы, для многіх з нас Евангелле — не жывое слова, можа быць, з-за таго, што ў нашых грамадах, сем'ях, школах, сярод сяброў ды й у самой парафіі мы ніколі не сустракалі нікога, хто б сваім сведчаннем паказаў для нас актуальнасць усёй Біблії.*

*Усе мы лічым яе надзвычай важнай, ніхто не выступае супраць Святога Пісання і ягонай сапраўднасці, але яно нас не кранае. Дык таму мы больш «дыскутуем», абмяркоўваючы такія надзённыя тэмы, як праблема наркаманіі, вайна, і наогул усё тое, што блізка нас закранае.*

*Вось жа на пытанне: «Чаго вы шукаеце?»мы адказваем усе разам «не ведаем», таму што ўзаемадзеянне і цесныя адносіны з Хрыстом не з'яўляюцца цэнтрам нашага жыцця, з-за чаго кожны з нас, на сваім шляху, шукае ў нашых сустрэчах уласнае карысці, а не карысці для ўсяе групы.*

*Дзякуй за ўвагу!*

Дарагія мае! Бачу, што вы шмат разважалі, усёй групай, над маім лістом да маладых. Мне здаецца, вы самыя здолелі паставіць вельмі дакладны дыягназ, што тычыцца не толькі вас, але і многіх вашых равеснікаў, ды й усяго свету ў цэлым. А хваробу, якую вы выкрылі, я назваў бы «прыстасаваннем».

Так, ёсць небяспека, што мы прыстасуем да нашых патрэбаў і пажаданняў малітву — каб атрымаць усё, чаго нам хочацца, і людзей — каб валодаць імі; што мы прыстасуем да сябе Царкву, каб задаволіць свае рэлігійныя пачуцці, і Святое Пісанне, каб разумець яго так, як нам падабаецца, праз прызму гатовых тлумачэнняў, якія мы носім у сабе. Мы ўмудраемся прыстасаваць да сябе нават Еўхарыстыю, калі звужаем яе да ўбогага асобнага «рэстараннага століка», каб задаволіць асабістую рэлігійнасць, у той час, як яна павінна быць нашым агульным банкетам, у якім усё дзеліцца паміж яго удзельнікамі — ад самой Еўхарыстыі да цярпенняў, з якімі мы сустракаемся пасля Еўхарыстыі, да дару сяброўства, адкрытага да ўсіх.

Ці ж не такі самы і ваш дыягназ? Але мне здаецца, што вы ж самі і прапануеце «курс лячэння», гаворачы: «Усе мы лічым найважнейшым фактам актуальнасць усяе Біблії».

Я на самой справе думаю, што ў Слове Божым можна знайсці ключ, які перамагае эгаізм нашага «прыстасавання» і перарабляе яго на аддаванне сябе Богу і іншым людзям, якія становяцца, дзякуючы гэтаму, нашым выратаваннем.

Але асцярожна! Нават найлепшыя намеры не выратоўваюць нас ад небяспекі «прыстасавання» Слова Божага. Напрыклад, калі мы не надаем Бібліі дастаткова часу. Бо Біблію нельга «праглынуць». Яна не можа аказаць на нас імгненнага натхняльнага ўздзеяння адразу ж, як толькі яе прачыталі ці паслухалі.

Дык будзем даваць час любові Гасподняй, даючы магчымасць Слову Божаму стацца добрай закваскай, пранікнуць, напоўніць нас. І тады яно ўвасобіцца ў святло для нас і дасць нам сілы не прыстасоўваць да сябе, але аддаваць усё, што ёсць у жыцці. І дасць нам шчасце, ці лепш сказаць, унутраны супакой, без якога ў жыцці няма ўзрастання. Можа быць, гэта і ёсць шлях нашага пошуку: шукаць слова, каб на справе знайсці іншых, сябе саміх і, натуральна, Госпада.

Накірунак ёсць — дык у дарогу!

Ваш † **Біскуп Альберта**

# Каб сустрэцца з Ісусам

Для дзяцей, якія не маюць той атэістычнай спадчыны, што маем мы, дарослыя, адным з самых чаканых і радасных святаў з'яўляецца Божае Нараджэнне. У нашай нядзельнай школцы пры Магілёўскай грэка-каталіцкай парафіі Бялыніцкай іконы Маці Божай сёлета яно адзначалася ўжо трэці раз.

Дзеці зноў рыхталіся перажыць у сваіх сэрцах гісторыю Нараджэння маленькага Дзіцяці, які стаў Збаўцам свету, Збаўцам мяне, Збаўцам цябе. Шмат хто з юдэяў чакаў гэтага Нараджэння, але калі яно прыйшло, не многія прынялі яго, не для многіх сталася яно радаснай весткай, бо сэрцы людзей не былі адкрыты для Госпада. Менавіта адкрыць свае сэрцы для Ісуса Хрыста, і штогод шырэй, дапамагае нам гэтае свята.

Галоўная мэта дзейнасці нашае школкі — дапамагчы дзіцячым сэрцам адкрыцца для ўспрыняцця Слова Божага — для асабістага кантакту з Ісусам Хрыстом. Сёння школку наведвае 27 дзяцей (тры групы), прыходзяць таксама і дарослыя. Мы займаемся па праграмах, зацверджаных Царквой, якія адаптуем для кожнае групы дзяцей. Супольна адзначаем святы, вучымся прымаць удзел у св. Літургіі, робім рэлігійныя канцэрты, паездкі. Паступова, па кроплях адкладаюцца ў дзіцячых сэрцах задаткі хрысціянскага светапогляду, асабістыя малітвы, уяўленне аб граху як галоўнай перашкодзе ў жыцці чалавека на ягоным шляху да асабістага развіцця, на шляху збаўлення.

Духоўнае выхаванне ў сярэдняй школе, інстытуце, універсітэце, як і раней, застаецца ў нас атэістычным. Сам атэізм мае «навуковы» характар. У выданні Інстытута філасофіі і права Нацыянальнай Акадэміі навук Беларусі за 1998 год чытаем: «...Высновы навукі ў наш час адназначны — для прыроды, усяго жывога, чалавека не існуе вечнага жыцця, таму што несмяротнасць азначае спыненне руху, развіцця, што супярэчыць законам прыроды». Чалавек зноў ставіцца ў цэнтр жыцця і жыве сваімі штодзённымі патрэбамі, якія з'яўляюцца для яго ўсім. Мы пастаўлены сёння ва ўмовы выжывання: барацьба за цукар, масла... Здабыццё ўсяго гэтага такім спосабам прапанавана нам як штодзённая патрэба, праз якую не бачна нічога большага.





Але ўрэшце заззяла Зорка, якая ўказвае сваім святлом нам і нашым дзеткам дарогу, па якой ідзём. Не па кілаграм цукру, што па норме купляем у краме праз «дабрадзействы» нашых уладароў, а каб схіліцца і аддаць свае сэрцы нашаму сапраўднаму Збаўцы.

*Дырэктар нядзельнай школкі*

**Алена Лосева**, *г.Магілёў*

# «Наша задача – сведчыць Ісуса Хрыста»

**Размова ў рэдакцыі «Царквы» з новасвятаром БГКЦ а. Андрэем АБЛАМЕЙКАМ**

***— Айцец Андрэй! Вось ужо больш за 2 месяцы Вы служыце ў сане святара Беларускай Грэка-Каталіцкай Царквы, з'яўляецеся душпастырам у самым вялікім на сёння асяродку беларускіх грэка-католікаў — Менску. Чытачам газеты «Царква», пэўна, будзе цікава бліжэй пазнаёміцца з Вамі, даведацца пра Ваш шлях да святарства, пазнаёміцца з Вашым поглядам на розныя праблемы Царквы ў Беларусі. Можа, пачнем з таго, як Вы прыйшлі да Бога, якую ролю адыгралі ў гэтым бацькі?***

— Нарадзіўся я ў 1970 годзе ў Менску. Быў пахрышчаны ў жніўні 1971 году ў вёсцы Жухавічы пад Мірам. З таго часу, аналізуючы свой мірскі шлях да Бога, я не раз раздумваў над гэтым, узгадваў некаторыя моманты свайго дзяцінства, вельмі дарагія і блізкія мне. Сёння я ведаю, адчуваю, што блізкасць з Богам была ўвесь час.

Тата і мама мяне хрысцілі тайна, бо тата мой быў тады камуністам, партыйным функцыянерам, і хрысціць адкрыта было нельга. Патрэбен быў час, каб бацька стаў вернікам. Сёння ён ходзіць да споведзі, да Св.Прычасця. Мама таксама.

Хрысцілі мяне ў суседняй татавай вёсцы, а хроснымі бацькамі былі бацькавы сваякі. Адбывалася гэта на хаце ў святара.

***— У праваслаўнага святара?***

— Так, бо ўсе мае продкі былі ўсходняга абраду. І ўся вёска праваслаўная — былая ўніяцкая. У старой уніяцкай царкве, у якой мяне хрысцілі, нават алтар на захад да сённяшняга дня захаваўся. І цяперашні бацюшка ведае, што гэта ўніяцкая царква, і ўсе людзі ў гэтых мясцінах ведаюць пра Унію. Тым больш, што з суседняй вёскі айцец Леў Гарошка паходзіць.

Першы цікавы выпадак з майго жыцця, які мне згадвала бабця, калі я быў зусім маленькі, такі. У нашай вёсцы ёсць маленькая капліčка на могілках, на якой часам служаць паніхіду, як, прыкладам, на Сёмуху, калі ў нас (у вёсцы) традыцыйна ўспамінаюць памёрлых. Дык вось тады бацюшка служыў у капліцы паніхіду, на якую прыйшлі мае бацькі. А я хадзіў ля магілак падчас паніхіды. Мяне заўважыў святар і кажа людзям: «Паглядзіце, дзіцятка Божае». Усе бабулі ўспрынялі гэта як нейкі знак. А яшчэ, помню, гадоў шэсць мне было, я вельмі ганарыўся, калі мне падаравалі крыжык, хоць тады дзецям насіць іх не можна было. Я насіў яго з гонарам, і гэта была мая тайна.

У Менску раней было ўсяго некалькі праваслаўных цэркваў, а касцёл толькі на Кальварыі. Калі я заходзіў у царкву, заўсёды адчуваў сябе там унутрана вельмі ўтульна. Гэта былі ўзнёслыя эмоцыі, мне было вельмі добра, я адчуваў унутраную цеплыню, я быў там як у сябе дома. Гэта было нейкае яшчэ неўсвядомленае прыцягненне.

Але мой свядомы шлях да Бога пачаўся з беларушчыны. Я быў беларусам. Але што значыць быць беларусам у 80-ыя гады? Памятаю, як патрапіў у міжнародны піянерскі лагер у Чэха-Славакію, дзе былі піянеры ўсіх сацыялістычных краінаў. Мне было 12 гадоў, але я ўжо тады ганарыўся і казаў усім, што я — беларус. Хоць вучыўся я ў расейскамоўнай школе, ды і ў сям'і карысталіся расейскай мовай. Мама ў мяне з горада, выхоўвалася ў расейскамоўным асяроддзі. Але, калі я трапляў у бацькаву вёску, я разумеў, што людзі тут размаўляюць на іншай мове. І калі я два тыдні ці месяц жыў у бабці, я там гаварыў з усімі па-беларуску.



Мяне, 12-гадовага хлопца, тады ў лагеры вельмі ўразіла тое, што, калі гаварылі харваты, чэхі, палякі — я адчуваў, што разумею трошкі іхнюю мову. Калі з імі гаварыў па-расейску, яны не ўсё разумелі, беларускае ж слова — разумелі. І мяне, 12-гадовага хлопца, гэта ўжо неяк закранала. Да таго ж, я маю брата Сяргея, які старэйшы за мяне на 8 гадоў. Ён быў ужо свядомы чалавек, беларус, які шмат чытаў і вучыўся на гісторыка. Ужо ў 15 гадоў я патрапіў у «Талаку». Недзе ў 18 гадоў я пачаў шукаць сэнс жыцця, свае карані. З аднаго боку былі пошукі нейкія падсвядомыя, пошукі чагосьці, унутраныя пошукі праўды, а з другога боку — былі пошукі каранёў сваіх, хто я ёсць. Шмат вернікаў, а асабліва нашай Царквы, прыйшлі да Бога менавіта так, праз беларускасць. Спачатку мы сталіся беларусамі, шукаючы свае карані, а праз гэта прыйшлі да Бога. Хаця частка талакоўцаў была паганцамі.

***— А як Вы даведаліся пра Унію? У Беларусі ж яе ўжо даўно не было, а яе гісторыя мэтанакіравана скажалася або замоўчвалася. Не было ні царкоўных структураў, ні святароў, ні вернікаў...***

— Гэта адбылося праз пошук і адчуванне той праўды пра сябе, пра свой народ. У 1988 годзе я ведаў ужо, што калісьці 80 адсоткаў беларусаў былі ўніятамі. Тады я і даведаўся праўду пра ўніяцтва. Для нас, моладзі, якая была ў «Талацэ», не было тады нічога дзіўнага ў тым, што Уніяцкай Царквы не існавала. Што з таго — беларускай мовы ў Менску таксама не існавала, але я і ўсе мы ёю карысталіся. Тады гэта была агульная тэндэнцыя да Адраджэння, пошуку каранёў і адновы гэтых каранёў ды адначасна праява нашай апазіцыйнасці, непрыняцця ўсяго таго, што рабілі камуністычныя ўлады ў нашай краіне ў дачыненні да беларушчыны. Уся беларуская культура ў нас была амаль знішчана, але ў 1988-1990 гадах усё беларускае актыўна адраджалася, і ў пэўным коле моладзі з'явілася ідэя, што, калі мы адраджаем сваю мову, то ёсць сэнс адрадзіць і сваю веру — уніяцкую. З нас смяяліся, абражалі, але я адчуваў, што гэта маё, роднае. З другога боку — было пачуццё справядлівасці. Я пазнаў праўду пра гвалтоўнае знішчэнне Уніяцкай Царквы ў XIX стагоддзі, пасля 1839 году. Беларусь некалі была грэка-каталіцкая. І гэты гвалт быў для мяне несправядлівасцю, які я лічыў неабходным выправіць. Але разам з тым, з кожным крокам я глыбей пазнаваў Госпада.

***— Як гэтае кола ўніяцкае фармавалася і развівалася? Гэта будзе цікава для гісторыі нашай Царквы. Напэўна ж, і Вы разам з гэтым колам фармаваліся як вернік?***

— Так, фармаваўся. Я быў яшчэ занадта малады, і таму нашымі завадатарамі былі крыху старэйшыя. Такімі завадатарамі, натхняльнікамі ўніяцкага адраджэння, былі найперш Сяржук Абламейка, Ірына Дубянецкая, Караліна Мацкевіч. Але былі і яшчэ старэйшыя, напрыклад, светлай памяці вядомы навукоўца Міхал Фёдаравіч Дубянецкі, бацька Ірыны і Галі Дубянецкіх, які быў слынным знаўцам царкоўнай гісторыі і быў пераканаdanym грэка-католікам.

Адраджэнне Уніі — гэта не проста ідэя Сяржука Абламейкі як гісторыка ці іншых. Хоць і гісторыя Уніяцкай Царквы іх турбавала. Гэтая моладзь захапілася, пачала прыходзіць да Бога, да Ісуса Хрыста. Але найперш мы прыходзілі да Царквы, нашай нацыянальнай Царквы. І гэта важна: неспазнаныя шляхі Гасподнія. Хрыстос кліча нас, кожнага, сваімі шляхамі. Мы прыйшлі ў Царкву, а ўжо пасля мы зразумелі, што Царкву заклаў Ісус Хрыстос — Сын Божы і Збаўца свету, асабісты Збаўца наш. І ў мяне на працягу майго жыцця былі нейкія моманты блізкасці з Богам, калі Ён адкрываўся мне, і калі я яшчэ, можа, не ўсведамляў, але ўжо адчуваў Бога. І ўрэшце рэшт ёсць Святое Пісанне, якое чытала моладзь, над якім разважала, без гэтага сам не пазнаеш Бога.

Адразу пачалася праца над стварэннем часопіса «Унія». Пісалі артыкулы і Сяржук Абламейка, і Ірына Дубянецкая, і іншыя. Часопіс стаў сродкам гуртавання прыхільнікаў адраджэння Царквы. Але калі гэта Ца-

рква, дык тут павінны быць матэрыялы не толькі гістарыяныя, але і тэалагічныя, пра Бога. І мы пачалі пазнаваць Бога. Уся гэтая праца фактычна нікім не кіравалася, гэта былі трохі выпадковыя пошукі, фактычна ўсё кіравалася Госпадам. Ён нас звёў, пачалася праца, нарэшце з'явіўся і айцец Ян Матусевіч. У 1988 годзе айцец Ян патрапіў у Лондан да айца Надсана. А ў 1989 годзе айцец Ян, будучы тады яшчэ лацінскім пробашчам у Барунах, пачаў хрысціць людзей ва ўсходнім абрадзе. Ён пахрысціў Ірыну Дубянецкую, сённяшняга айца Пахома і інш. Тыя першыя хросты можна лічыць пачаткам адраджэння Уніяцкай Царквы ў Беларусі. (Як мы даведаліся ўжо пазней, у Горадні даўно працаваў а. Віктар Данілаў.) У 1990 годзе ў Гомелі з праваслаўя перайшоў айцец Пётр Кузьмічоў, у гэтым жа годзе айцец Ян канчаткова вырашыў пераходзіць у Унію, прымае ўсходні абрад пад уплывам і спрыянні айца Надсана.

Мы патрабавалі адзін аднаго, і мы знайшлі адзін аднаго. Пасля выхаду часопіса «Унія» пачалі арганізоўвацца суполкі па ўсёй Беларусі, пасля пачалося літургічнае жыццё.

***— Як і дзе адбывалася Вашае фармаванне як святара?***

— Мяне рукапаклалі на дыякана ў Івана-Франкоўску 15 траўня 1991 году. А перад гэтым я трымаў іспыт па маральнай тэалогіі, гісторыі Царквы, дагматычнай тэалогіі. На іспыце, дарэчы, было тры прафесары і рэктар семінарыі Уладыка Ірыней. Высвячваў мяне Уладыка Сафрон Дмытэрка. Я быў фактычна першым беларускім дыяканам пасля пачатку адраджэння Уніі. Але ўласнай падрыхтоўкі было недастаткова, трэба было вучыцца далей, каб сур'ёзна працаваць у Беларусі. Патрэбы тады былі вялікія. Я быў дыяканам у айца Яна. Мы шмат што рабілі, арганізоўвалі, шмат ездзілі служыць — і ў Магілёў, і ў Полацак, і ў Старыя Дарогі, і ў іншыя мясціны Беларусі. Нават у Маскву ездзілі, дзе таксама было кола грэка-каталікоў! Я распачаў свае студыі ў Івана-Франкоўскім катэхетычным інстытуце адразу на II курсе, а ў 1994 годзе Кангрэгацыя Усходніх Цэркваў выдзеліла мне стыпендыю для навучання ў Чэхіі — у семінарыі і ўніверсітэце імя Палацкага ў Аламоўцы. Там было невялікае ўсходняе аддзяленне. Два гады я вучыўся там. На Захадзе сёння іншая сістэма навучання семінарыстаў, там няма такой закрытай семінарыі. Сёння яна займаецца фармацыяй святара: у ёй семінарыст моліцца, мае рэкалекцыі, штодзённыя спатканні з духоўнікам, тэмы для разважанняў, агульную малітву з іншымі семінарыстамі, але ходзіць вучыцца тэалогіі ва ўніверсітэт. На захадзе тэалогію разам вывучаюць манахі, будучыя святары і свецкая моладзь.

Пазней у мяне з'явілася магчымасць перавесціся бліжэй да Беларусі — у Люблінскі Каталіцкі ўніверсітэт (*KUL*). Цяпер я заканчваю пісаць магістарскую працу па пастаральнай тэалогіі на тэму душпастырства сям'і: «Стан сям'і ў Беларусі». Спадзяюся, летам змагу абараніцца.

***— Калі ў нас зайшла гаворка пра сям'ю, то, можа, колькі словаў пра Вашу сям'ю?***

— Я жанаты, маю жонку Святлану. Яна паходзіць з Глыбокага, з пабожнай рыма-каталіцкай сям'і. Але так сталася, што яе ў 1990 годзе хрысціў а. Ян Матусевіч ва ўсходнім абрадзе. Яна цяпер у дэкрэтным адпачынку, але вучыцца на завочным аддзяленні па спецыяльнасці сацыяльная педагогіка ў Беларускім універсітэце культуры. Мы выхоўваем дваіх дзяцей — сына Багдана, якому ўжо 7 гадоў, і дачку Альжбету, яна мае 2,5 гады.

***— Раней, а то і сёння часам можна пачуць, што справа адраджэння Уніі ў Беларусі — гэта, нібыта, палітычная інтрыга Ватыкану, Польшчы, ЦРУ і г.д., што мы нейкія «агенты», што акаталічваем і паланізуем беларускі народ...***

— Я не хачу глядзець на Царкву як на нейкую палітычную арганізацыю. Беларуская Грэка-Каталіцкая Царква з'яўляецца сведкай Ісуса Хрыста, ягонай любові тут, у Беларусі. Наша Царква навучае, яна проста лякуе нашае грамадства, якое знаходзіцца ў прыгнечаным стане, у стане дэпрэсіі пасля падзення імперыі — Савецкага Саюзу. А праз гэта наступіў і крызіс — эканамічны, палітычны, абвастрыўся канфлікт пакаленняў ды іншыя праблемы. І гэта ўсё на фоне такой бяды, як Чарнобыльская... Наша грамадства сёння ў стане стрэсу. І мы сёння сведчым любоў да бліжняга, мы сведчым Ісуса Хрыста, вучым любові нашых парафіянаў, у нас ёсць газета «Царква» — менавіта беларуская газета, мы шчыра молімся за нашу Бацькаўшчыну-Беларусь і беларускі народ. Наша Царква актыўна ўжывае беларускую мову, нашыя вернікі амаль усе шчырыя і свядомыя беларусы. Няўжо нас можна назваць агентамі нейкай там структуры, да таго ж не Хрыстовай? Мы — хрысціяне, для мяне Ісус — мой Бог, для мяне беларусы — мае браты, стварэнне Божае. І ў царкве ў кожным сваім казанні нагадваю людзям, што Бог стварыў нас на свой вобраз і перадусім мы мусім паважаць свой вобраз, ікону Божую ў сабе і ў бліжнім сваім.

***— А што можна сказаць тым людзям, якія гавораць, што мы — грэкакаталікі — сёння расколваем беларускую нацыю? Кажуць: так, сапраўды, былі калісьці нашыя продкі ўніятамі, але цяпер у нас нібыта 80 адсоткаў праваслаўных, і трэба адраджаць праваслаўе, няхай менавіта яно будзе беларускай нацыянальнай верай.***

— Мы не расколваем нацыю. Мы не такія шматлікія, але мы сапраўды існуем у Беларусі, ад нас ужо нікуды не дзенешся — ёсць у нас 15 парафіяў, але беларусаў мільёны. Мы не прэтэндуем, каб мець тысячу парафіяў. Мы ёсць, і самая асноўная нашая задача — сведчыць Ісуса Хрыста. Наша справа сёння сведчыць пра тое, што зрабіў для нас Ісус Хрыстос, што Ён Збаўца наш. Наша задача — памагаць беларусам пазнаваць каштоўнасць жыцця, займацца асветай, тлумачыць стаўленне Каталіцкай Царквы, і увогуле — Хрыстовай Царквы, Бібліі, напрыклад, да такіх сённяшніх праблемаў, як аборт, эўтаназія, смяротнае пакаранне. Трэба гаварыць пра гэта. А што да таго, што кансалідуем мы беларускую нацыю альбо дзелім — я, асабіста, для сябе такіх мэтаў глабальных не стаўлю. Мы павінны аб'яднаць сёння. Калісьці, калі мне 18-20 гадоў, такая глабальнасць была і ў мяне. Цяпер я не бачу сэнсу гаварыць пра глабальнасць. Мы — беларусы, мы ніколі не былі і не будзем супраць, каб у Беларусі развівалася беларуская аўтакефальная Царква. Наадварот, я вельмі рады, што і ў Праваслаўнай Царкве ў Менску пачаліся літургіі па-беларуску. Мне не важныя праблемы аўтакефалістаў-эмігрантаў ці праблемы расейскіх шавіністаў у Праваслаўнай Царкве, мне не важная праблема польскіх шавіністаў у лацінскім абрадзе. Мне важна, каб яны сведчылі пра Хрыста, а не пра свае інтарэсы тут. Для мяне важна, што беларуская мова як літаратурная мова дасягнула сёння найвышэйшай ступені ва ўсіх Цэрквах Беларусі, хай сабе нават толькі ў асобных храмах. Я ўпэўнены — гэта толькі пачатак. Можна гэты працэс прытрымаць, але нельга стрымаць. Наша Беларуская Грэка-Каталіцкая Царква першая, дзе ва ўсіх парафіях моляцца па-беларуску, нават калі святар не беларус, ён усё роўна служыць для сваіх вернікаў па-беларуску. Гэта нармальна. Калі наша Царква сведчыць Хрыста, калі людзі, хай нават ахрышчаныя ў праваслаўі ці нават зусім неахрышчаныя, пазнаюць Хрыста ў нашай Царкве, калі людзі-бязбожнікі прыходзяць да Бога — гэта і ёсць задача нашай Царквы ў Беларусі. Наогул, вось які сэнс існавання яе ў Беларусі: «Ідзіце і навучайце ўсе народы, хрысцячы іх у імя Айца, і Сына, і Святога Духа»!



*Менск, 20.12.98. Прыміцыйная (першая) служба новасвятара а. Андрэя Абламейкі ў касцёле св. Сымона і Алены.*

***(Працяг размовы чытайце ў наступным нумары «Царквы»)***

# «ДАЙ, БОЖА, КАБ Я БЫЎ УЖЫТЫ Ў ТВАІМ ВІНАГРАДНІКУ»




*У апошні месяц мінулага году беларуская духоўная літаратура папоўнілася новым выданнем. У адной з варшаўскіх друкарняў асобнай кнігай выйшаў* ***«Духовы дзённік»*** *колішняга віленскага біскупа блаславёнага Юрыя Матулевіча (яе вы* ***можаце набыць праз рэдакцыю «Царквы»****). Мы вырашылі пазнаёміць сваіх чытачоў з гэтай кнігаю і асобаю ейнага аўтара. Прапануем вашай увазе запіс адмысловай перадачы Беларускай Службы Радыё «Свабода» са студзеня 1999 году.*

«Духовы дзённік» блаславёнага Юрыя Матулевіча выйшаў у выдавецтве айцоў марыянаў і быў фундаваны Генеральнаю ўправаю гэтага закону. Пераклад на беларускую мову з літоўскага арыгіналу зрабіў Сяргей Шупа.

Зацікаўленне марыянаў Беларуссю вядомае і мае ўжо даволі доўгую традыцыю. Кожнаму абазнанаму ў гісторыі беларусу вядомы кляштар марыянаў у Друі, а таксама і лонданскі Мар'ян Хаўс, дзе пасля вайны жылі і працавалі такія выдатныя беларускія святары-марыяне, як біскуп Часлаў Сіповіч, айцы Тамаш Падзява, Язэп Германовіч і Леў Гарошка. Добра вядомы ў Беларусі сёння і нязломны змагар за беларусізацыю Каталіцкай Царквы ксёндз Уладзіслаў Чарняўскі з Вішнева — таксама манах-марыянін, колішні выхаванец Друі.

Блаславёны ж Юры Матулевіч, чый «Духовы дзённік» выйшаў зараз пабеларуску, з'яўляецца Аднаўляльнікам ордэну марыянаў, беатыфікаваны Святым Айцом і хутка, як чакаецца, будзе абвешчаны святым. Выданне ахоплівае толькі ягоныя запісы 1910-1914 гадоў.

25 студзеня 1911 году ён запісаў у дзённіку сваё бачанне місіі Каталіцкай Царквы. І тады, і пазней ён заўсёды выступаў супраць агрэсіўнага царкоўнага нацыяналізму, які найбольш быў уласцівы палякам, але меў месца і сярод ягоных суайчыннікаў-літоўцаў: *«Я спадзяюся, што нашы заўсёды будуць рупіцца аб справах усёй Царквы; што яны здолеюць, зрокшыся сябе, пакінуўшы свой край і народ, ісці працаваць туды, дзе таго патрабуе большая хвала Божая. Асабліва мусім мы рупіцца аб сібірскіх і расейскіх абшарах, дзе гэтулькі душаў блукае без праведніка; аб Амерыцы з яе галаслівым жыццём, дзе так лёгка можна забыцца аб справах душы; ды аб усіх іншых краінах. Я спадзяюся, што калі толькі сярод нас запануе сапраўдны дух Евангелля, сярод нашых не будзе нястачы і ў такіх, хто б захацеў працаваць сярод стодахвалаў і блудавераў».*

Ён нарадзіўся ў 1871 годзе ў адной з літоўскіх вёсак на Сувальшчыне ў сям'і Уршулі і Андрэя Матулайцісаў. Пазней, паступаючы ў семінарыю, ён змяніў сваё літоўскае прозвішча на беларуска-польскі варыянт «Матулевіч».

У дзесяць год Юры Матулевіч застаўся поўным сіратой і выхоўваўся ў сям'і старэйшага брата. Штодзень у школу трэба было хадзіць за 10 кіламетраў, часта ў холад і дождж. І таму праз некалькі гадоў у яго невылечна захварэлі ногі — гэта былі костныя сухоты, якія ўсё далейшае жыццё прыносілі яму неверагодныя пакуты. Сёння ў Рыме ў марыянскім музеі захоўваюцца скураныя пратэзы, якія блаславёны Юры Матулевіч быў вымушаны насіць праз цэлае сваё жыццё.

Нягледзячы на хваробу Юры Матулевіч здолеў паступіць у Духоўную каталіцкую семінарыю ў Кельцах, а пасля яе заканчэння, як лепшы клерык, быў накіраваны ў Санкт-Пецярбургскую Духоўную Каталіцкую Акадэмію. Пасля ён вучыўся ў нямецкім Фрыбургу і дастаў там ступень доктара тэалогіі. Пасля была праца прафесара сацыялогіі ў каталіцкай Акадэміі Санкт-Пецярбургу і падпольная, ва ўмовах Расейскай імперыі, дзейнасць па аднаўленні глыбока законспіраванага закону марыянаў. Ад 1911 году і да смерці ў 1927 годзе ён быў Генералам Закону Марыянаў.



*Блаславёны Юры Матулевіч*

У 1918 годзе Юры Матулевіч быў прызначаны Віленскім біскупам і заставаўся на гэтай пасадзе да 1925 году. Адхілены ад кіравання дыяцэзіяй ён быў на настойлівыя патрабаванні польскіх уладаў, якія называлі ягоную дзейнасць дэпаланізацыйнай.

Менавіта да гэтага перыяду яго дзейнасці належаць ягоныя захады да духовага адраджэння беларусаў, і менавіта за ягоную дзейнасць у гэты час мы павінны быць яму ўдзячныя.

Ён заснаваў беларускія каталіцкія кляштары ў Друі і Альберціне, усяляк падтрымоўваў выкарыстанне беларускай мовы ў касцёлах і як мог бараніў правы беларусаў-католікаў. Ён адзіны сярод ерархаў у Польшчы ў адкрытую падтрымліваў беларускі рух. Яшчэ ў першыя месяцы свайго біскупства ў Вільні ён запісаў у «Дзённіку» — «бачу, што мушу як найхутчэй вывучыць беларускую мову».

Вось кароткая цытата з ліста біскупа Матулевіча айцу Андрэю Цікоту з дня 27 лютага 1919 году:

*«1. Задачай Царквы з'яўляецца навучанне закону Божага ў зразумелай для народу мове.*

*2. Беларускі рух адраджаецца, і калі Царква не выйдзе яму насустрач, дык гэты рух пойдзе супраць Царквы і будзе яе вінаваціць за дэнацыяналізацыю беларускага народу.*

*3. Неабходна мець на ўвазе і беларусаў-праваслаўных, да якіх можна наблізіцца, прапаведуючы Божае слова толькі ў беларускай мове.»*

А вось ягоны запіс, зроблены 13 студзеня 1911 году, які раскрывае духовае аблічча гэтага святара і многае тлумачыць у ягоным лёсе: *«Пану Богу хай будзе за ўсё хвала; хай найсвяцейшая воля Ягоная спаўняецца ва ўсім. Цалую руку Твайго Провіду, цалкам і поўнасцю аддаюся Табе, Пане, каб Ты вёў мяне. Ойча Нябесны, рабі са мной што належыцца. Дзівосным шляхам падабаецца Табе, Пане, мяне весці. Але хто ўгадае Твае шляхі й намеры? Вось я, слуга Твой, пасылай мяне, куды хочаш. Як немаўля, кідаюся я ў Твае абдымкі: нясі мяне. Шляхам цяжкасцяў і перашкодаў падабаецца Табе мяне весці. Дзякую Табе й за гэта, шчыра дзякую. Спадзяюся, што, ідучы гэтым шляхам, я не так хутка памылюся, бо гэта шлях, якім ішоў і мой наймілейшы Збаўца, Езус Хрыстус.*

*Пане, як я Цябе люблю! Дай жа, каб любіў я й не пераставаў любіць ніколі. Сэрца маё гарыць. Я б хацеў усім да апошняй кроплі крыві ахвяраваць за Цябе, усё аддаць, усяго зрачыся, і жыцця, і ўсяго, каб толькі хвала Твая расла і Царква Твая ўзвышалася й квітнела. Пакажы сам, што мне рабіць. Столькі ласкі Ты дараваў мне, Пане. Што я Табе магу даць? Усё, што маю. Ад сябе я не маю нічога, я багаты ад ласкі Тваёй. Усё Табе прысвячаю. Калі можна прасіць, дык дай, Пане, каб я быў у Тваёй Царкве не раўнуючы тая ануча, якой усё мыюць, а ўжыўшы, кідаюць прэч у які цямнейшы й бруднейшы кут. Хай бы й я быў гэтак выкарыстаны і ўжыты, каб толькі ў доме Тваім было крыху чысцей і святлей. Хай пасля мяне куды і выкінуць, як тую анучу — брудную й зношаную. Дай, Божа, каб я быў ужыты ў Тваім вінаградніку, у глебе Тваёй як гной, як угнаенне, каб толькі пасля жніво было лепшае і ўраджай шчадрэйшы. Дай, каб я быў пагарджаны, каб я знасіўся, змарнаваўся, каб толькі Твая хвала расла і шырылася, каб толькі мне прычыніцца да росквіту Тваёй Царквы. Дурны я, не разумею, чаго прасіць. Дай, Божа, каб ва ўсім споўнілася воля Твая. Вось я, бяры мяне. Рабі, што хочаш, са мною. Дай, каб я быў паслухмяным прыладаю ў Тваіх руках. Хай толькі Твая хвала расце, Тваё валадарства шырыцца, Твая воля спаўняецца. Дай мне, каб я штораз болей зракаўся сябе й штораз болей Цябе любіў».*

Вось гэтак ставіўся да Бога чалавек, які, будучы літоўцам з паходжання і вельмі любячы сваю летувіскую мову, напісаў: *«Для мяне ўсе роўныя: ці то беларусы, ці то палякі, ці то літоўцы...»*

*(Паводле перадачы Беларускай Службы Радыё «Свабода»)*

# Сусветны Кангрэс семінарыстаў:

## «Укрыжаваны і пакінуты Ісус – мост паміж небам і зямлёй»

З 29 снежня 1998 г. па 1 студзеня 1999 г. у Кастэль Гандольфа (вядомай папскай рэзідэнцыі каля Рыму) прайшоў чарговы Сусветны Кангрэс семінарыстаў, арганізаваны каталіцкім рухам *«Focolare»*. У ім удзельнічала 850 семінарыстаў, звязаных з рухам, а таксама і выхавацелі. На сёлетнім Кангрэсе былі прадстаўнікі 79 краінаў свету. Упершыню ў гэтым годзе ў Кангрэсе брала ўдзел і беларуская дэлегацыя — Апостальскі візітатар для грэка-католікаў у Беларусі архімандрыт Сяргей Гаек і семінарыст Кірыла Невяроўскі.

Каталіцкі рух *«Focolare»* паўстаў у паўночнай Італіі напрыканцы II Сусветнай вайны. У цяжкіх ваенных варунках маладыя італійкі — заснавальніца руху К'яра Любік і некалькі яе сябровак — пастанавілі больш канкрэтна жыць паводле Евангелля. Асабліва яны ўпадабалі для сябе словы з Евангелля «каб усе былі адно». Да першай супольнасці дзяўчатаў у хуткім часе далучыліся таксама і хлопцы. У пачатку 50-ых гадоў рух, які ахопліваў свецкіх, пачаў шырыцца па ўсёй Італіі, а затым і па ўсім свеце. Свецкія, якія ўдзельнічаюць у гэтым руху, як правіла, жывуць у сем'ях, аднак некаторыя выбіраюць цэлібат, як браты і сёстры «свецкія». У канцы 60-ых гадоў унутры руху паўстала адгаліняванне, што аб'ядноўвае семінарыстаў і святароў.

Асаблівым пакліканнем руху *«Focolare»* з'яўляецца праца дзеля еднасці і паяднання ўсіх людзей. Сябры руху аказвалі вялікую дапамогу Цэрквам, якія пераследаваліся ў часы камуністычнага рэжыму. Асаблівую падтрымку руху адчулі на сабе сем'і ўсходніх католікаў у Балгарыі. Сёння супольнасці руху *«Focolare»* ёсць таксама ў Беларусі, Украіне і Расеі.

Тэмаю сёлетняга форуму семінарыстаў стаў сказ: «Укрыжаваны і пакінуты Ісус — мост паміж небам і зямлёй». Падчас паседжанняў семінарысты абмеркавалі актуальныя праблемы жыцця Каталіцкай Царквы, ролю святара ў сённяшнім свеце, пытанні падрыхтоўкі да святарства ў семінарыях.

З прывітальным словам да семінарыстаў звярнуўся генеральны сакратар Рады Канферэнцыяў Епіскапату Еўропы мансіньёр Альда Джардана, кардынал Міраслаў Влк, сакратар Канферэнцыі Епіскапату Італіі мансіньёр Эньё Антанэльлі.

30 снежня ўдзельнікаў Кангрэсу прыняў на аўдыенцыі Святы Айцец Ян Павел II.

Вось некаторыя ўражанні аб сёлетнім Кангрэсе семінарыстаў, з якімі падзяліліся ягоныя ўдзельнікі.

***Рафаэл (Партугалія)***: *«Я прыехаў на Кангрэс трохі выпадкова. Раней, ад некаторых святароў у маёй дыяцэзіі Сетубал, што на поўдні Партугаліі, мне даводзілася чуць, што рухі ў Царкве непатрэбныя, дастаткова парафіі. Тут я меў магчымасць пачуць пра тое, як некаторыя семінарысты, што былі звязаныя з рухам «Focolare», імкнуцца актыўна ўдзельнічаць у жыцці парафіі. Асобныя з іх трапілі ў семінарыю дзякуючы супольнасці гэтага руху. Дні сумеснай малітвы і разважанні не толькі нагадалі мне тое, што я ўжо чуў раней, але і заахвоцілі, каб жыць гэтым штодзень. Гэта значыць, каб сапраўды рэалізоўваць прыказанне ўзаемнае любові. Я адкрыў, што гэта прыносіць сапраўды радасць».*

***Ніку (Румынія):*** *«Для мяне, грэка-каталіцкага семінарыста з Румыніі, Сусветны Кангрэс семінарыстаў стаў вельмі добрым досведам. Некалькі грэка-каталіцкіх святароў з маёй епархіі ў Румыніі мелі раней кантакт з групамі «Focolare» ў Італіі. Гэта былі жанатыя святары, і кантакт з сем'ямі «факалярынаў», заангажаваных у жыццё Царквы, быў для іх значнай духовай падтрымкай. Яны нанова адкрылі для сябе вартасць супольнай медытацыі Божага Слова ў сям'і.*

*Тут, на Кангрэсе, я спаткаў семінарыстаў і святароў амаль з 80 краінаў свету. Гэтае спатканне дало мне шмат радасці і аднавіла духоўна. Сам я рыхтуюся да святарства ў цэлібаце, і таму для мяне важным было пачуць сведчанне жыцця і службы старэйшых святароў з розных куткоў свету.*

*Вельмі важным досведам для мяне была таксама сустрэча з праваслаўнымі семінарыстамі з Румыніі. Раней мы не мелі такіх кантактаў. На Кангрэсе, у часе малітвы ля падножжа Крыжа Хрыстовага, адкрылі, што сапраўды мы ёсць братамі. Увечары, якім заканчваўся стары 1998 год, мы маліліся разам, каб Папа Ян Павел II змог у хуткім часе наведаць Румынію.»*

***Васіле (Румынія):*** *«У гэтым годзе я заканчваю праваслаўную семінарыю ў Тымішуары. На Кангрэсе я сустрэўся з вельмі добрым стаўленнем з боку каталіцкіх семінарыстаў з розных краёў свету. Асабліва быў узрушаны тым, як семінарысты з ЗША публічна прасілі прабачэння ў халдэйскіх семінарыстаў (усходніх католікаў) з Іраку за тыя цярпенні, якія выпалі на долю іракскага грамадства ў выніку амерыканскіх бомбавых налётаў на Ірак. Тут я пабачыў, як можна жыць духам прабачэння і паяднання ўжо цяпер».*

*З Рыму —*

**Кірыла Невяроўскі**

# «АЛЬБО БЕЛАРУСЬ БУДЗЕ ХРЫСЦІЯНСКАЯ, АЛЬБО БЕЛАРУСІ НЕ БУДЗЕ ЗУСІМ»

Гэтыя словы Апостальскага нунцыя Ватыкану ў Беларусі Дамініка Грушоўскага, сказаныя ім падчас семінару «Рэлігія і асвета: традыцыі і сучасныя праблемы», які адбыўся 17 лютага ў Менску ў Нацыянальным навукова-асветным цэнтры імя Ф.Скарыны, можна лічыць праяўленнем агульнае думкі ўсіх удзельнікаў семінару. У ім бралі ўдзел святары розных канфесіяў, вядомыя беларускія навукоўцы, выкладчыкі ВНУ, прадстаўнікі міністэрстваў адукацыі і культуры.

Нашу Царкву на семінары прадстаўляў айцец Андрэй Абламейка, беларускіх рыма-католікаў — айцец Уладзіслаў Завальнюк. Айцец Георгі Латушка, які прадстаўляў Праваслаўную Царкву, перадаў прывітанне і блаславенне Мітрапаліта Менскага і Слуцкага Філарэта.

У сваёй кароткай уступнай прамове дырэктар Нацыянальнага навукова-асветнага цэнтру імя Ф.Скарыны сп-ня Любоў Уладыкоўская-Канаплянік адзначыла, што без духоўнасці няма развіцця нацыі. Праблему асветы і рэлігіі прадставіў удзельнікам семінару праф.Адам Мальдзіс. Галоўным дакладчыкам быў праф.Уладзімір Конан. Ён распавёў пра традыцыі хрысціянскай асветніцкай думкі ў Беларусі ад часоў Рагнеды (у манастве Анастасіі) і св.Еўфрасінні і акрэсліў тры перыяды ў развіцці хрысціянскай асветы ў нашай краіне: ранняе сярэднявечча — вучыцельнае багаслоўе, сярэднявечча (XVI-XVII ст.) — палемічнае багаслоўе, XVIII-XIX ст. — дагматычнае багаслоўе.

Пасля дакладу адбылася дыскусія, у якой на пачатку святары, а затым і астатнія ўдзельнікі семінару, выказалі сваё меркаванне пра сучасны стан рэлігійнай асветы.

Усе выступоўцы занепакоена адзначалі страту духоўных каштоўнасцяў, духоўных традыцыяў і адначасна рост злачыннасці ў грамадстве. Гаворка ішла пра праблемы рэлігійнага выхавання ў школе і сям'і. Стаўленне да сям'і — адна з важкіх праблемаў нашага грамадства, іі тут не абысціся без вырашэння канцэптуальных пытанняў. Напрыклад, дагэтуль успадкаванае намі савецкае права лічыць бацькоў памочнікамі школы ў выхаванні дзяцей. Але ж натуральнае, г. зн. Божае права, гаворыць пра адваротнае! Шмат гаварылася таксама пра ўплыў дэструктыўных сектаў.

Беларуская культура, як і ўся традыцыйная еўрапейская культура, заснавана на хрысціянскіх каштоўнасцях. Ерархія нашых каштоўнасцяў мае апірышча ў дэкалогу — адзначыў у сваім выступе айцец Андрэй Абламейка. Сёння, аднак, пра гэта ў нас забыліся. У нашым грамадстве не выпрацавана маральнага стаўлення да жыцця (аборты, эўтаназія, смяротныя пакаранні), і таму сёння ўсе хрысціяне павінны клапаціцца пра вяртанне да спрадвечных нашых арыенціраў.

У цэлым семінар насіў арганізацыйна-ўстановачны характар. Удзельнікі семінару дамовіліся праводзіць падобныя сустрэчы рэгулярна. Былі акрэслены прыкладныя тэмы для наступных сустрэчаў. Кожная наступная сустрэча будзе прысвечана адной канкрэтнай праблеме сучаснага стану рэлігійнай асветы. Падчас гэтых сустрэчаў будзе зроблена спроба выпрацаваць агульныя для ўсіх канфесіяў падыходы.

*Улляна Шаставец*

# Уніяцкая бажніца. Што ў сярэдзіне?

Вядома, што на практыцы ўніяцтва ўяўляла своеасаблівы напрамак, у якім складана перапляталіся традыцыі ўсходняй і заходняй Царкваў. Замосцкі сабор 1720 году ўзаконіў лацінскія навваўвядзенні. А гэта не магло не адбіцца на інтэр'еры бажніцаў.

Асноўным элементам інтэр'еру ў канцы XVIII стагоддзя ва ўсіх цэрквах з'яўляліся алтары. Звычайна яны былі дашчаныя, радзей — разьбяныя. У дэкаратыўным афармленні алтароў атрымала шырокае распаўсюджанне размалёўка «на оптыцы» каляровымі меламі фарбамі. Зрэдку алтары аздабляліся пазалотаю.

Іканастасы адыходзілі ў небыццё. У 1784 годзе з 84 цэркваў Нясвіжскага і Клецкага дэканатаў яны існавалі толькі ў 14. Кампазіцыйны дыяпазон іх — архаічныя алтарныя перагародкі на 4 абразы або іканастасы ў некалькі ярусаў. У васьмі цэрквах гэтых дэканатаў існавалі рудыменты іканастасаў у выглядзе адных царскіх варотаў; царскіх варотаў і аднаго-двух абразоў, размешчаных побач або над імі; некалькіх абразоў, размешчаных над краткамі перад вялікім алтаром. У 1834 годзе, згодна з выпіскай, складзенай епіскапам Беларускай грэка-ўніяцкай епархіі В.Лужынскім менскаму губернатару, у Ігуменскім, Дзісенскім, Бабруйскім, Барысаўскім, Рэчыцкім паветах іканастасы былі толькі ў 9 цэрквах. Традыцыя выкарыстання іх, а таксама прастолаў у інтэр'ерах беларускіх цэркваў была настолькі знітавана, што надарыўся нават выпадак разбурэння ў 1836 годзе ўладкаваных іканастаса і прастола як не ўласцівых для ўніяцкага культу прыхаджанамі Рэчыцкай царквы Пінскага павету.

Трэба адзначыць, што іканастасы найчасцей можна было сустрэць у цэрквах базыльянскіх манастыроў.

Ролю дамінанты ў інтэр'еры выконваў галоўны алтар, размешчаны каля ўсходняй сцяны, адгароджаны, як і ў касцёле, невысокай перагародкай (краткамі). Абапал кратак у большасці выпадкаў уладкоўваліся бакавыя алтары. У некаторых цэрквах меліся дадатковыя алтары пры паўночных і паўднёвых сценах.

Атрыбутыка алтароў амаль цалкам была каталіцкай. Галоўны франтон менсаў аздабляўся антыпедыумамі. Бывалі антыпедыумы, маляваныя на дрэве, палатне, разьбяныя, папяровыя, вышываныя, выраблены з мастацкіх тканінаў. Стол галоўнага алтара пакрываўся льнянымі абрусамі, паміж імі захоўваўся антымінс — адзіны атрыбут алтарнага стала, які прысутнічае і на прастоле праваслаўнай царквы. Па цэнтры стала размяшчаўся цыбoрыум (драўляны куфэрак, дзе ў алавянай або срэбнай скрыначцы захоўваліся Святыя Дары пад ільняным карпаралам). На цыборыум ставіўся крыж з распяццем. У вясковых цэрквах пераважалі драўляныя маляваныя алтарныя распяцці, сустракаліся таксама алавяныя або драўляныя на металічных пастаментах. Таксама на менсах і перад алтарамі размяшчаліся алтарныя падсвечнікі.

Адпаведна каталіцкаму цырыманіялу падчас набажэнства перад Найсвяцейшым Сакрамэнтам неабходна было запальваць не меней пяці лямпаў і тры — перад вялікім алтаром, па адной — перад астатнімі алтарамі. У малых храмах дастаткова было і адной. Колькасць лямпаў магла мяняцца, але павінна была заставацца няпарнаю. Гэта несла містычны сэнс, бо і Хрыстос у Адкрыцці паўстае пасярод сямісвечнікаў з сямю зоркамі ў дзясніцы. У праваслаўных храмах гэты сімвалічны змест нясуць на сабе сямісвечнікі, размешчаныя з усходняга боку паблізу прастолаў. Ва ўніяцкіх цэрквах канца XVIII — пачатку XIX стагоддзя сямісвечнікі адсутнічалі, іх ролю выконвалі алтарныя падсвечнікі (абавязкова парны лік). Бывалі не толькі драўляныя маляваныя, але і алавяныя падсвечнікі, часам — медныя. Колькасць іх розная — ад адной пары і болей. Атрыбутыку менсы галоўнага алтара дапаўняў служэбнік, які пакладаўся на падушку з вышыванай або пашытай з мастацкіх тканінаў навалачкай. Евангелле на стале галоўнага алтара ў вопісах не згадваецца.




*Інтэр'ер царквы базыльянскага манастыра ў в.Суцькова Смаргонскага р-ну.4.05.1998*

Сталы астатніх алтароў афармляліся антыпедыумамі, пакрываліся 2-3 абрусамі: на іх у большасці выпадкаў размяшчаліся алтарныя крыжы з распяццем, 1-2 пары падсвечнікаў. Падсвечнікі ставілі і перад алтарамі. Гэтаксама афармляліся алтары ва ўніяцкіх цэрквах Прыкарпацця на пачатку XX стагоддзя.

З праваслаўнага богаслужэбнага начыння ў вопісах упамінаюцца толькі кадзілы і мірніцы. Паўсюль ужываліся каталіцкія пурыфікатэры, патэны, карпаралы, падносы з ампулкамі, што разам з адсутнасцю ахвярнікаў сведчыць аб правядзенні абраду прыгатавання Святых Дароў паводле звычаяў Заходняй Царквы.

Суіснаванне заходняй і ўсходняй традыцый праявілася і ва ўніяцкім іканапісе. Так, разам са схемамі праваслаўнага цыклу (Багародзіца з Дзіцем, Пакровы, Нараджэнне Хрыстова, Нараджэнне Багародзіцы, Ушэсце Хрыста, Звеставанне, Тройца Новазапаветная, апосталы, Мікола і інш.) шырока распаўсюджаны былі заходнееўрапейскія схемы (Бязвіннае зачацце, Антоні падуанскі, Ян Непамук, Язэп з Богамладзенцам, Балесная Маці Божая, абразы з сюжэтам каранавання Багародзіцы).

У першай палове XIX стагоддзя назіраецца кананічная перапрацоўка схемаў Крыжовага шляху, характэрных для заходняга абраду. У Заастравецкай царкве Клецкага раёну Менскай вобласці выяўлены чатыры абразы, якія належалі Логнавіцкай царкве, якая размешчана ў музеі народнай архітэктуры і побыту. Пісаны яны на палатне адным аўтарам, маюць аднолькавыя памеры і рамкі. Абразы належаць да цыклу Крыжовага шляху. Але якраз у гэтым 14-сюжэтным заходнім цыкле і няма схемаў «Маленне аб чашы», «Бічаванне Хрыста ля слупа». «Хрыстос перад Каіяфай» адпавядае схеме «Пан Езус на смерць осуджоны», а «Нясенне Крыжа Гасподняга» — схемам «Упадок под Крыжом». Аб прыналежнасці абразоў да ўсходняга абраду сведчаць і надпісы, зробленыя на славянскай мове.

Апроч алтарных, насценных абразоў у інтэр'еры было няшмат — 2-5, зрэдку болей, часцей яны зусім адсутнічалі. Алтарныя абразы завешваліся фіранкамі з мастацкіх мануфактурных тканінаў.

Каля абразоў Багародзічных, Гасподніх, святых часта падвешваліся вотыўныя таблічкі,— іх рабілі з металу, пераважна каштоўнага. На таблічках змяшчаліся надпісы, якія нагадвалі пра дабрадзействы або ўтрымлівалі просьбу атрымання міласцяў ад Бога, Багародзіцы, святых. Часцей вотыўныя таблічкі рабіліся ў форме рук, ног, сэрца. Каля абразоў Антонія Падуанскага падвешвалі металічных конікаў — гэты каталіцкі святы ў Беларусі лічыўся патронам згубленых рэчаў. У выпадках, калі цыганы кралі коней, вяскоўцы звярталіся з просьбаю або падзякаю за знойдзеную прапажу да Антонія Падуанскага. Традыцыя змяшчаць вотыўныя таблічкі ля святыняў сваімі каранямі сягае паганскіх часоў, характэрна ранняму хрысціянству. У IV стагоддзі таблічкі ў выглядзе Хрыста, рук, ног падвешвалі да надмагілляў пакутнікаў. Народны густ і наіўная шчырасьць праявіліся ва ўпрыгожанні Багародзічных абразоў пацеркамі, завушніцамі, пярсцёнкамі, а статуй Хрыста — аксамітнымі сукенкамі.

Запазычаннем з касцёлу з'явілася ўвядзенне ва ўсіх уніяцкіх цэрквах вынасных алтароў у выглядзе двухбаковых абразоў з фератронамі «Паносных» іконаў Божае Маці, як іх называюць у народзе. Вынасныя абразы фігуравалі і ва ўсходнім абрадзе. У каталіцкай традыцыі яны афармляліся фератронамі. Вынасныя алтары паўсюль увайшлі ў жыццё ў XIII стагоддзі і ў цяперашні час выкарыстоўваюцца ў былых уніяцкіх, цяпер праваслаўных парафіях.

Уплыў заходняга абраду праявіўся і ў паўсюднай замене адзення праваслаўных святароў на каталіцкія арнаты, альбы, гумэралы. Навацыямі сталі ўвядзенне скульптуры, амбонаў, сталлі (лавак), канфесіяналаў для споведзі, арганаў. [...]

Сінтэз традыцыяў праявіўся ў разнастайнасці працэсійных крыжоў. Бывалі крыжы не толькі са скульптурным распяццем (каталіцкая традыцыя), але і маляваныя «на оптыцы» (праваслаўныя). Але звычайна ў адным храме сустракаліся абодва віды гэтых атрыбутаў. Часта ў скульптурных распяццях ногі Хрыста пакладаліся адна на адну (заходняя традыцыя), але прыбіваліся двума цвікамі (усходняя традыцыя).

Адметная рыса інтэр'еру — наяўнасць ва ўсіх храмах скарбонак у выглядзе невялікіх акаваных куфэркаў з патаемнымі замкамі. Скарбонкі знаходзіліся ў алтарнай частцы храма, у іх захоўвалі розныя парафіяльныя каштоўнасці.

Царкоўнае драўлянае абсталяванне і начынне (скарбонкі, аналоі, алтары, перагародкі, сталлі, падсвечнікі, цыборыумы, фератроны, распяцці і інш.) ствараліся мясцовымі майстрамі. Шмат што рабілася паводле ўзораў хатняга начыння (цэнтральны аналой — у выглядзе роўнабаковага стала, скарбонкі — у выглядзе звычайнага куфэрка). Пануючыя ў мастацтве стылі пераасэнсоўваліся адпаведна ўласным уяўленням і народнаму густу. Таму невыпадкова, напэўна, абразы, фератроны, крыжы, распяцці ўпрыгожваліся ахвярнымі ручнікамі, наміткамі; крыжы, распяцці — яшчэ і фартухамі, хусткамі; алтарныя абразы — занавескамі са штучных мануфактурных тканінаў; алтары, аналоі ў цэнтры храма — вазамі з кветкамі; іканастасы, алтары — гірляндамі са штучных кветак.

Вядома, нялёгкім і няпростым было існаванне Уніяцкай Царквы ў Беларусі. І ўсё ж яна была паўнакроўным, жывым арганізмам, бо старанна клапацілася пра асноўнае сваё прызначэнне — выратаванне людскіх душаў. Народ, носьбіт вечнае праўды, у стане быў перапрацаваць традыцыі Усходняй і Заходняй Цэркваў, змясціць іх у рэчышча пакланення Хрысту, надаць ім асаблівую адметнасць. [...] Яна была і застаецца яскравай старонкай жыцця нацыянальнай Царквы, якую ніяк нельга выкрасліць з гістарычнай памяці.

*«Культура», № 3 (164), 18.01.1995, с. 4*



*Паважаная рэдакцыя газеты «Царква»!*

*Я былы праваслаўны, цяпер грэка-католік і хачу выказаць свае думкі наконт таго, якой павінна быць Грэка-Каталіцкая (Уніяцкая) Царква.*

*Я падтрымліваю старшыню парафіяльнай Рады з Баранавічаў Уладзіміра Гундара. Сапраўды, мы павінны ўзяць усё лепшае як ад Праваслаўнай, так і ад Каталіцкай Царквы.*

*Вельмі добра было б, каб у нашых цэрквах былі арганы. Калі іграе гэты музычны інструмент, яго гук душу ачышчае і ўзносіць у неба да Бога. Ад гэтага пачуцця атрымліваеш вялікую асалоду, у думках яднаешся з Богам. Тым больш і ў Бібліі сказана: усхваляйце Госпада на музычным інструменце (Пар. Пс 150).*

*Не кепска, каб у нашай царкве стаялі лавы. Вернік сталага ўзросту, хворы ці нямоглы, зайшоўшы ў царкву, змог бы пабыць з Богам не 20-30 хвілінаў, а гадзіну ці дзве. Пры гэтым ён адпачне не толькі душою, але і целам. З гэтай нагоды людзі застаюцца ў касцёле значна дольш, чым у царкве.*

*Калі паводле візантыйскага абраду ў царкве абавязкова мусіць быць іканастас, то я — за лёгкі, празрысты. Бог ніколі не адгароджваўся ад людзей, Ён нарадзіўся сярод іх, быў з імі, вёў за сабою: «Я свет у святле, ідзіце за мною і ніколі не заблудзіцеся».*

*Адзначаць святы мы мусім разам з Каталіцкай Апостальскай Царквой, а не як прапануе брат Андрэй Латыш. На тое мы і сталі грэка-католікамі, каб быць з Апостальскай Царквой адзінай сям'ёй. Мы верым у адзіную, святую, паўсюдную і апостальскую Царкву, якую пабудаваў Хрыстос, даручыўшы ключы ад Валадарства Нябеснага апосталу Пятру і сказаўшы: «Што развяжаце на зямлі, тое будзе развязана на Небе». І ніхто мяне не пераканае, што Нараджэнне Хрыстова мы павінны святкаваць разам з расійскім праваслаўем 7 студзеня, зважаючы на нейкія «ўсходнія традыцыі». На 7 студзеня ў Беларусі святкавалі Каляды, а гэта паганскае свята. Нічога агульнага паміж паганскім святам і Нараджэннем Ісуса Хрыста няма. І не каляндар вырашае лёсы людзей і Царквы, а Бог і толькі Ён адзін. Таму не варта займацца палітыканствам, каб камусьці дагадзіць.*

*Асабліва я рады, калі да нас прыходзяць людзі розных нацыянальнасцяў: украінцы, расейцы, палякі, габрэі ды іншыя. Перад Богам усе людзі роўныя. Шкада, што на зямлі мы гэтага не разумеем.*

**Адам Сарокін**

*г.Менск*



*Слава Ісусу Хрысту!*

*У рубрыку пра царкоўны абрад мне хочацца дадаць некалькі словаў. Можа быць, гэта не зусім тое, пра што вядзецца дыскусія на старонках газеты, але ўсё ж.*

*Я ўважліва прачытаў усе прапановы і артыкулы да гэтай тэмы, але не знайшоў найгалоўнага, у чым мае патрэбу сучасная Царква. Гэта найперш прапановаў пра духоўнае адраджэнне хрысціянаў. Як стварыць у Царкве тую атмасферу, якая б умацоўвала веру, духоўнасць для ўзрастання ў ласцы Божай і пазнанні Госпада нашага і Збаўцы Ісуса Хрыста.*

*Многія прыходзяць у царкву, слухаюць казанні, моляцца, але як выйдуць — іх адразу захлынае іншы свет, у якім жывуць так, як быццам няма ніякага Бога. І ні ў думках, ні ў сэрцы нічога не застаецца. Гэта ж не навіна, а рэальны твар многіх, сумная рэальнасць. Не памылюся калі скажу, што некаторыя нават не маюць Бібліі. Але ж чытаць кнігі Святога Пісання вельмі важна для верніка. Гэта тая прыступка, якая вядзе да разважання, да шчырай малітвы. Сам Папа Ян Павел II у сваіх выступах і публікацыях заклікае «прывучаць сябе да больш шчырай размовы са Словам Божым», «усіх, хто шукае ісціну, хадзіць кожны дзень, кормячыся хлебам Слова Жыцця».*

*Для маральнага і духоўнага адраджэння ў сучасным свеце патрэбна вера, якая грунтуецца на чымсьці больш істотным, чым проста рэлігійныя традыцыі і абрады. Перш за ўсё кожны мусіць пабудаваць Божы храм у самім сабе, каб Дух Божы жыў у ім.*

*З павагай*

**Ігар Кіслач**

*УЖ 15/13, г.Глыбокае*



*Слава Ісусу Хрысту!*

*Шаноўная рэдакцыя газеты «Царква»!*

*Вялікі вам дзякуй за вашую ахвярную працу на карысць нашай роднай ды спрадвечнай Грэка-Каталіцкай Царквы! Колькіх людзей менавіта нацыянальная скіраванасць нашай Царквы прывяла да храму, а ўрэшце — да Бога! Вам, айцец Ігар, асабліва дзякуй за нястомнае ўмацаванне нашай Царквы! Заснаваць некалькі парафіяў па-за Берасцем за такі малы час — гэта велічны ўчынак!*

*Лічу, што зараз галоўным пытаннем у Царкве павінна быць павелічэнне колькасці святароў (бо парафія без сталай душпастырскай апекі — гэта простая магчымасць развалу парафіі ў любы час), а яшчэ ўладкаванне ўласных месцаў для набажэнстваў (маленькія арэндаваныя пакойчыкі моцна стрымліваюць рост колькасці вернікаў).*

*Мяркую, што нельга цяпер пачынаць прынцыповыя спрэчкі наконт абраду. Вядома, абмеркаванне магчыма, але каб толькі гэта не давяло да ўзаемных крыўдаў ды нянавісці. Мы павінны быць разам!*

*Перш за ўсё трэба захоўваць беларускую мову выключнай большасці службаў. На замову пэўных групаў вернікаў магчымы службы на іншых мовах, але толькі як рэдкія выключэнні. Толькі гэтак мы захаваем большасць вернікаў.*

*Нельга ўводзіць у сталыя службы арганы ды іншыя лацінскія запазычанні. Вядома, у XVIII ст. у нашай Царкве было ўведзена шмат рысаў лацінскага абараду, але зараз такія крокі стварылі б, па-першае, пагрозу адыходу часткі нашых вернікаў да неканонічных аўтакефальных (але цалкам беларускіх) Праваслаўных Цэркваў, а па-другое, былі б вельмі выгоднымі Беларускаму Экзархату РПЦ, які тады адразу «прылучыць» нас да Касцёлу ды не будзе лічыць нечым самастойным.*

*Нашая Царква павінна захоўваць велічны ды невычэрпны ўсходні абрад як святую рэліквію. Трэба стварыць сінтэз старажытнага візантыйскага абраду ды асаблівасцяў, што былі напрацаваны ў Беларускай Царкве. Але ніякіх рэзкіх зменаў ад абраду, які мы маем сёння, нельга дапускаць. Інакш гэта зноў будзе выкарыстоўвацца супраць нас.*

*Сёння ў беларускіх цэрквах РПЦ ёсць асаблівая ідэалогія наконт таго, што аб'ёмныя фігуркі святых, арганы, служба святара тварам да вернікаў ды іншыя асаблівасці лацінскага абраду — гэта ўсё прыкметы псеўдацарквы, псеўдахрысціянскай культуры і наогул польскай «вычварнасці». Гэтая ідэалогія выкарыстоўваецца як сродак, які замбіруе праваслаўных вернікаў, дае РПЦ надзею, што вернікі не пойдуць ад іх да касцёлу. Але мы захавалі велічны ўсходні абрад і менавіта таму РПЦ гэтак не любіць нас, грэка-католікаў. Справа не ў тым, хто на якой «кананічнай тэрыторыі», а ў звычайнай канкурэнцыі з прычыны вельмі падобных абрадаў. А мы ж яшчэ маем не проста старажытны абрад, захаваннем якога гэтак ганарыцца РПЦ, але абрад моўна зразумелы для ўсіх (нізкі паклон за гэта айцу Аляксандру Надсану).*

*Вось таму ў РПЦ няма аргументаў для спрэчак з намі, таму вылучаюцца бязглуздыя абвінавачанні ў «захопе кананічнай тэрыторыі» (быццам бы ўсе народжаныя на гэтай тэрыторыі павінны належаць да РПЦ, як прыгонныя сяляне пэўнай вёскі да свайго пана). Апошнім часам у Менску нават пачалі правіць у адной царкве праваслаўныя літургіі па-беларуску. Пры гэтым было сказана, што пашырэння такой практыкі на іншыя цэрквы РПЦ у Менску альбо ў іншых гарадах не будзе. Значыць, вызначылі рэзервацыю? Ой, цяжкая доля праваслаўнай беларускай інтэлігенцыі! Хочацца, каб і па-беларуску, і каб без Уніі. Вось атрымалі нейкі рэзерват без надзеі на развіццё. Але затое гэтым Беларускі Экзархат РПЦ здолеў прыцягнуць да сябе частку беларускамоўных вернікаў. Ды ўсё ж Грэка-Каталіцкая Царква надта іх пужае.*

*Дзякуй Богу, наша Царква не знайшлася ў ганебным спісе Цэркваў, якія былі нядаўна афіцыйна прызнаны альбо адразу дэструктыўнымі, альбо кандыдатамі на адпаведную экспертызу. Дарэчы, трапілі ў гэты спіс абедзве неканонічныя беларускія Праваслаўныя Цэрквы...*

*Вельмі прыгожы, дыхтоўны атрымаўся № 4 (19) «Царквы». З каляровай вокладкай яго цалкам магчыма набывалі б і праз шапікі «Белсаюздруку», прынамсі ў Менску. Ведаю, што ад гандлю праз шапікі адныя страты, але калі надрукаваць у нумары адрасы нашых капліцаў, дык цалкам магчыма знайсці новых вернікаў.*

*Было б выдатна, калі б аднавіўся выхад часопісу «Унія». Гэтае выданне, мне здаецца, шмат хто чакае і сумуе без яго.*

*Няхай бласлаўляе Бог вас ды вашую працу!*

*З павагай да вас*

**Рыгор Фёдараў**

*г.Менск*



*Слава Хрысту!*

*Мяне завуць Віталь. Мне 18 гадоў. Служачы міністрантам у касцёле св. Сымона і Алены ў Менску, я пазнаёміўся з а. Янам Матусевічам. Так як ён быў хворы, я хадзіў дапамагаць яму па гаспадарцы. Айцец Ян жыў са сваёй маці Надзеяй. Яна вельмі старэнькая і хворая (1916 году нараджэння). Доўгімі зімовымі вечарамі, робячы што-небудзь, мы з айцом Янам шмат размаўлялі. Менавіта ён першы пазнаёміў мяне з Уніяцкай Святой Царквой. Так, я не памыляюся — Святой З'яднанай Царквою Хрыста. З размоваў з а. Янам я пазнаў і адкрыў свае вочы на веліч сваёй Бацькаўшчыны. Ён прывіў мне любоў да роднага краю, ад яго я пазнаў гістарычнае мінулае, нялёгкі шлях Уніі. Хутка айцец Ян замяніў мне роднага бацьку. (Мой бацька памёр, калі мне было 3 гады). Калі ехалі куды-небудзь на аўтамабілі, мы заўжды праслаўлялі веліч і прыгажосць нашай Бацькаўшчыны. Па нядзелях я дапамагаў а. Яну падчас св. Літургіі ў Менску. Мяне захапіла справа экуменізму — адзінства Святой Хрыстовай Царквы. Я з маленства жадаў стаць святаром. Айцец Ян казаў, каб я падумаў наконт святарства ва Уніяцкай Царкве. Але я пра гэта раней неяк не думаў. Цяпер айца Яна ня стала! Усё жыццё маё перавярнулася. Я зноў страціў бацьку! Самага дарагога мне чалавека пасля маці. Мне вельмі баліць душа і не хапае словаў пераказаць усю боль...*

*Сталася так, што не без уплыву родных я паступіў у семінарыю ў Горадні, цяпер вучуся на 1-м курсе. Толькі тут я знайшоў свой сапраўдны шлях да Бога. Адраджэнне Святой Уніі і вялікай культурнай спадчыны беларускага народу — мэта майго жыцця. Я хачу стаць святаром. Я ведаю, што адзін Бог, адзін Хрост, адна вера!!!*

*Хачу падзякаваць рэдакцыі «Царквы» за вашую самаадданую працу. Усё для Бога і для людзей. Дзякуючы вашай працы людскія сэрцы адчыняюцца для Хрыста. Беларусь прачынаецца ад доўгага сну. Мы, беларусы, маем магчымасць яшчэ больш пазнаць сваю спадчыну, мы бачым, як жылі нашыя дзяды і прадзеды, як змагаліся за сваю веру, за свой народ, за родную Беларусь. Таксама вельмі жадаю падзякаваць за душпастырскую працу айцу Андрэю Абламейку, айцу Казіміру Ляховічу з Менску, айцу Віктару Данілаву з Горадні і айцу Сяргею Гаеку. Дзякуй вам вялікі і нізкі паклон ад усёй Беларусі. Няхай добры Бог блаславіць вашую шчырую працу на ніве Гасподняй. А памяці айца Яна Матусевіча я прысвячаю гэту сваю малітву.*

***О, Хрысце Божа, Сыне адзіны Бога Жывога, народжаны ад Найсвятой Дзевы! Ты, перад тым як збавіць свет ад грахоў, наказаў захоўваць адзінства Царквы. Дапамажы ў справе збліжэння народаў і канфесіяў. Ты, крыніца дабра і міласэрнасці, асвяці Беларусь Духам Святым, каб стацца нам адзіным, святым народам, у адзінай Святой Хрыстовай Царкве. І няхай святыя Твае анёлы занясуць гэтую малітву на твой алтар у небе на знак нашае любові і еднасці. Божа Усемагутны і ласкавы! Блаславі наш пакутуючы край, захавай і зберажы Беларусь. Просім аб гэтым праз Сына Твайго Ісуса Хрыста. Амін.***

*Хвала Хрысту!*

**Віталь**

*г.Горадня*

---



*Добры дзень, паважаны айцец Ігар і ў Вашай асобе ўся рэдакцыя газеты «Царква»!*

*Піша Вам чалавек, які ад 1990 году лічыць сябе ўніятам, якога блаславіў наш шаноўны айцец Ян Матусевіч. З айцом Янам я быў у вельмі добрых адносінах, як і мой нябожчык брат Міхась Ткачоў, якога ён праводзіў у апошні шлях, ад пачатку і да канца. (Міхась Ткачоў — першы старшыня БСДГ, доктар, прафесар гісторыі). Будучы цяжка хворым, ён блаславіў мяне на цяжкую аперацыю на сэрцы, і, віншуючы яго з 50-годдзем, я дзякаваў яму за малітвы перад Панам Богам за мяне. Але так здарылася, што ў верасні не стала яго, і я, яшчэ нямоглы, не змог правесці яго ў апошні шлях. Праўда, у Жодзінскім касцёле я маліўся за яго супакой.*

*Мой род — настаўнікі ў 4-х каленах, я і мой сын — настаўнікі гісторыі, мая жонка і дачка — настаўніцы літаратуры, таксама і мая маці былая настаўніца, нават прапрадзед мой — прафесар Горацкага інстытута, удзельнік паўстання К.Каліноўскага 1863-64 гадоў. Мы старажытнага каталіцкага шляхецкага роду з Мсціслаўшчыны. На газету «Царква» мы заўжды падпісваліся і падпісваемся. Усе мы ўніяты, але ў горадзе няма парафіі, і мы ходзім у Жодзіна ў касцёл.*

*Я б хацеў ведаць больш аб жыцці нашай Царквы: колькі парафіяў на сённяшні дзень, колькі святароў, ці ёсць манастыры, пра іх жыццё, у тым ліку Полацкі манастыр, хто кіруе нашай Царквой замест айца Яна (хто дэкан), які біскуп кіруе нашай Царквой і калі будзе свой біскуп і г.д.*

*Хай бароніць Вас наш міласэрны Госпад, хай пашле шчасце нашай роднай Беларусі і Грэка-Каталіцкай Царкве!*

*З павагай да Вас*

**Алесь Каралёў,**

**жонка мая Тацяна і мае нашчадкі**

*г.Жодзіна*

<u>Ад рэдакцыі:</u>

*Нашая Беларуская Грэка-Каталіцкая Царква пакуль яшчэ невялікая — усяго 15 зарэгістраваных парафіяў і некалькі місійных пляцовак, і таму пакуль што мы не маем уласнага біскупа. Сёння БГКЦ падпарадкоўваецца непасрэдна Кангрэгацыі Усходніх Цэркваў. Нашым біскупам з'яўляецца Прэфект гэтай Кангрэгацыі кардынал Ахілес Сільвестрыні, а кіраўніцтва нашай Царквой ажыццяўляецца праз Апостальскага візітатара архімандрыта Сяргея Гаека. Грэка-каталіцкія парафіі ў Беларусі абслугоўвае 6 святароў, 2 дыяканы, манаская грамада — гэта 3 манахі і 3 манашкі Студыцкага Ордэну.*



*Добры дзень!*

*Стала чытаць вашу газету і надумала прасіць вас, каб дапамаглі мне праз газету звярнуцца да людзей па дапамогу. Каб хто чым мог, тым і дапамог нам з сынам. Магчыма, у кагосьці засталася непатрэбнае дзіцячае адзенне, абутак альбо цацкі. У сына памер абутку 32-34, рост ягоны — 143. Ды і для мяне, магчыма, знойдуцца нейкія рэчы — непатрэбныя ці тыя, што надакучылі (памер абутку ў мяне 37,5-39, адзення — 44-48). Сёння тут, на Шаркаўшчыне, нам вельмі цяжка жыць, тым больш я без працы. Колькі ні спрабавала — пакуль безвынікова, няма куды ісці працаваць. На тую мінімальную дапамогу — пенсію ў сувязі са стратай карміцельца ў 350 тысяч рублёў — пражыць немагчыма. Цяпер такія вар'яцкія цэны, што немагчыма ні ў школу сына сабраць, ні апрануць яго. А ў мяне не дзяўчынка — з ёй трохі прасцей — хлопец, які расце, і яго трэба паставіць на ногі. У сваё 8 гадоў ён ужо ведае, што такое голад, бо я не заўжды хлеба магу купіць. Мне 27, здаецца маладая, здаровая з выгляду, але ўжо шмат хваробаў.*

*Хацелася б, каб мяне зразумелі правільна — без дапамогі людзей на дадзены момант нам не пражыць. І я веру, што людзі дапамогуць. У кагосьці, напэўна, ёсць нешта непатрэбнае, што ляжыць без выкарыстання, а нам было б дарэчы. Можа, нехта папаўнеў ці нешта проста не падыходзіць. Дзеці растуць, а некаторыя добрыя рэчы застаюцца, дык не выкідайце іх, прымем усё. Можа, да школы хто-чым дапаможа. Мы купіць паесці сабе не можам, дзе ўжо нам набыць астатняе.*

*Вось усё і напісала, пра што думала. Дзякуй, што выслухалі. Думаю, я правільна зрабіла, што рашылася вам напісаць. Да пабачэння. А наш адрас, калі нехта захоча дапамагчы, такі:*

**Правалінская Вольга Мікалаеўна**

*вул.Горкага, 4, кв.13*

*211910 г.п.Шаркаўшчына*

*Віцебскай вобл.*

<u>Ад рэдакцыі:</u>

*Друкуючы гэты ліст з просьбай аб дапамозе, мы шчыра разлічваем, што нашы чытачы абавязкова адгукнуцца. Сёння цяжка жывецца многім, і хто, як не мы, хрысціяне, першымі павінны прыйсці на дапамогу тым, хто яе просіць. Надалей мы гатовы прапанаваць нашу маленькую газетную плошчу для спецыяльнай рубрыкі, у якой будуць змяшчацца адрасы тых, хто разлічвае на нашу хрысціянскую спагаду і падтрымку.*

Паола Вагнэр

# Тата, а дзе жыве Бог?



### А ЯК ГЭТА СТАЛАСЯ, ШТО МЫ З'ЯЎЛЯЕМСЯ МЕНАВІТА ХРЫСЦІЯНАМІ, А НЕ КІМ ІНШЫМ?

Мае тата і мама мяне пахрысцілі, калі я быў малы. Калі ж я трохі падрос, напачатку мне гэта здалося дзіўным, што хаджу да царквы, што ўжо ахрышчаны, але паступова я пачаў тое разумець.

Цяпер я вельмі рады таму, што я адзін з хрысціянаў, і лічу гэта за вялікі гонар. А калі я ажаніўся і калі нарадзіўся ты, твае браты і сястрычкі, я стала адчуваў, як добра тое, што мы з мамай не самотныя. Мы ўсведамлялі часта, што з намі Ісус, што Ён нас вядзе, дапамагае нам. Мы вельмі рады таму, што маем сяброў, якія таксама вераць у Хрыста. Мы сустракаемся з імі ў царкве, яны моляцца за нас, а мы молімся за іх. Ведаеш, гэта ўсё трэба перажыць. Без уласнага вопыту цяжка зразумець, што азначае быць хрысціянінам.

Быць хрысціянінам — зусім не нешта само-сабой зразумелае, як, напрыклад, тое, што ты дзяўчынка, альбо ты маеш маму і тату. Гэта надзвычайны дар, не заслужаны дар, які чалавек мусіць цаніць, таму што не кожны мае магчымасць быць выхаваным з дзяцінства ў веры ў Госпада нашага Ісуса Хрыста. Іншыя людзі мусяць да гэтага доўга ісці.

Сёння бывае часта так, як было з першымі хрысціянамі. Людзі навяртаюцца да веры толькі ў дарослым узросце, таму што іхнія бацькі іх не ахрысцілі альбо ахрысцілі, але не вельмі дбалі пра іх веру. І тыя людзі толькі тады, як выраслі, спаткалі якіх-небудзь хрысціянаў, а тыя ім сказалі нешта падобнае: «Глядзі, мы верым, што Ісус Хрыстос ёсць Сын Божы і што Ён заклаў Царкву. Хадзі да нас, паспрабуй, можа, з намі знойдзеш тое, што шукаеш!»

### А ЧАМУ, ТАТА, У НАШЫМ КЛАСЕ НЕ ЎСЕ АХРЫШЧАНЫЯ?

Многія дзеці не ахрышчаныя, таму што іхнія бацькі не хочуць, каб яны былі хрысціянамі.

Іншыя бацькі кажуць, што як дзеці вырастуць, самі вырашаць, ці быць ім хрысціянамі, ці не. Гэтага я не разумею.

Калі ж тыя самыя бацькі не дбаюць пра веру сваіх дзяцей або дзеці не бачаць, што іх бацькі вераць у Бога, не могуць у дарослым узросце прыняць такое рашэнне, бо першымі, хто мусіў бы пераказаць веру дзецям,— павінны быць іхнія бацькі. Такое адцягванне Святога Хросту гаворыць пра слабую веру альбо ўвогуле з'яўляецца знакам няверы бацькоў. Аднак часам дзяцей хрысцяць іхнія бабці, якія веру яшчэ захавалі.

Святы Хрост не з'яўляецца проста нейкай традыцыяй, якая ўводзіць дзіця ў Царкву. Чалавек падчас Хросту становіцца хрысціянінам, а таксама «дзіцём Божым», гэта азначае, што сам Госпад Бог бярэ яго пад сваю апеку на ўсё жыццё.

Падчас Хросту бацькі абяцаюць перад усімі людзьмі ў царкве, што жадаюць жыць, як хрысціяне, а сваё дзіцятка будуць выхоўваць у веры ў Ісуса Хрыста. І нават тады, калі б праз гэта мелі праблемы і цяжкасці. Шмат бацькоў сапраўды вельмі паважна ставяцца да гэтых абяцанняў і сваіх дзяцей выхоўваюць так, што дзеці, калі вырастуць, вераць у Ісуса Хрыста і надалей жывуць як хрысціяне, і ходзяць у царкву, а таксама выхоўваюць так і сваіх дзяцей. Такім чынам, наша вера перадаецца з пакалення ў пакаленне.

*Пераклаў з чэшскай*

**айцец Андрэй Абламейка**

*г.Менск*

## 15 гадоў святарства айца Казіміра Ляховіча

*Благаславі, душа мая, Госпада*
*і не забывай усіх дабрадзействаў Яго.*



4 сакавіка — Дзень Анёла душпастыра Менскай парафіі іконы Маці Божай Нястомнай Дапамогі айца Казіміра Ляховіча. У гэты дзень спаўняецца 15 гадоў ад моманту дыяканскіх свячанняў вялебнага айца Казіміра. Гэта азначае 15 гадоў ягонага служэння народу Божаму.

*Ад імя рэдакцыі "Царквы", нашых чытачоў і ўсіх вернікаў БГКЦ прагнем падзякаваць Богу за ўсялякае дабро, якое Ён зрабіў праз дыяканскае ды святарскае служэнне айца Казіміра. Просім Госпада Царквы — Ісуса Хрыста— аб усялякіх ласках для нашага юбіляра.*

**Адказы на крыжаванку, змешчаную ў папярэднім нумары «Царквы»:**

**Па вертыкалі:** 1. Малітва. 5. Анёл. 6. Ласка. 7. Андрэй.

**Па гарызанталі:** 2. Пілат. 3. Юда. 4. Акафіст.

Царква
грэка-каталіцкая газета
№ 1 (20), 1999

Адрас рэдакцыі:
вул.Дворнікава, 63
224014 г.Берасце,
Беларусь
Тэл./факс: (0162) 24-74-82

Заснавальнік і выдавец:
Берасцейская грэка-каталіцкая парафія святых братоў апосталаў Пятра і Андрэя
Пасведчанне аб рэгістрацыі: № 1055 ад 27.11.1997 г.
Галоўны рэдактар: святар Ігар Кандрацьеў
Рэдактар: Ігар Бараноўскі
Падпісана ў друк: 10 сакавіка 1999 году, а 7-30
Паліграфічныя работы:
Замова №
Аб'ём 2,0 ул.-выд.аркушы. Наклад 1800 асобнікаў.

Наш разліковы рахунак
№ 3015200210017
у Берасцейскім філіяле № 2
КБ "Абсалютбанк",
МФО 150501242

Газета выдаецца на ахвяраванні. Шчыра дзякуем і молімся за ўсіх нашых ахвярадаўцаў!